9 лістапада 2018 | № 41 (604)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

**Выбары прайшлі. Інтрыга засталася**

Стар. 9

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

4 **«У ГЭТАЙ ДЗЯРЖАВЕ НЕСВАБОДНЫЯ ЎСЕ»**

**Зміцер Паліенка вызваліўся з калоніі, дзе адбыў 1,5 года...**



5 **«НЯБАЧНЫЯ СВЕТУ СЛЁЗЫ»: ЦІ ВАРТА ПЛАКАЦЬ?**

**У парыве адчаю, усвядоміўшы поўны крах сваіх намаганняў кантраляваць алкаголіка, я сказала сабе: «Хопіць. Я зрабіла ўсё, што магла»**

6–7 **ХУНВЭЙБІНЫ ЛУКАШЭНКІ: АД «ПРЯМОГО ДЕЙСТВИЯ» ДА БРСМ**

**3 лета 1996 года Лукашэнка паступова пачаў працу з моладдзю**




10–11 **«ДУМАЎ, ШТО СТАЛІН ПАМЁР – І ЎСЁ ЗМЯНІЛАСЯ...»**

**Адным з тых, хто прайшоў праз выпрабаванні лагераў, быў беларускі літаратурны крытык і перакладчык Раман Фёдаравіч Ляпіч.**

# Курапаты: «рэжымная мемарыялізацыя» супраць правоў чалавека



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«7 лістапада — свята міру і сапраўдных правоў чалавека», — заявіў надоечы афіцыйны кіраўнік краіны.**

Такое дзіўнае выказванне Лукашэнка агучыў падчас размовы з прадстаўнікамі працоўных калектываў дарожных арганізацый, якія ўдзельнічалі ва ўзвядзенні моста праз Прыпяць, а таксама з жыхарамі Жыткавіцкага раёна напярэдадні афіцыйнага святкавання Дня Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дарэчы, Беларусь засталася адзінай краінай, якая адзначае гэты дзень менавіта з такой фармулёўкай.

Што ж меў на ўвазе афіцыйны лідар, улічваючы, што ў 1917 годзе Кастрычніцкі пераварот адбываўся зусім не мірным шляхам і абсалютна не зважаючы на правы чалавека? Хутчэй за ўсё, у кіраўніка дзяржавы папросту своеасаблівае разуменне гэтых самых правоў — у чым мы з вамі час ад часу і пераконваемся. Таму зусім не дзіўна, што да гэтай катэгорыі ён, відавочна, адносіць масавыя дэпартацыі, ГУЛАГ, катаванні і расстрэлы 1920–1950-х гадоў, вечны савецкі дэфіцыт, «жалезную заслону», здушэнне любой праявы індывідуальнасці і — о жах! — іншамыслення.

Незвычайны талент кіраўніка дзяржавы спалучаць неспалучальнае закрануў і святое для беларусаў месца — Курапаты. Відаць, менавіта ў якасці зацвярджэння «міру і сапраўдных правоў чалавека» да 7 лістапада быў дадзены загад паставіць афіцыйны мемарыяльны знак у месцы масавых сталінскіх расстрэлаў. Без грамадскага абмеркавання, не звяртаючы ўвагі на шматлікія пратэсты актывістаў, з падманам — карацей, у лепшых традыцыях савецкай «справядлівасці». І гэта, заўважце, прыклад таго, як вокамгненна дзяржава можа выконваць свае абяцанні, няхай нават насуперак меркаванню грамадства.

А вось пратэсты на працягу пяці месяцаў каля пабудаванай з парушэннем ахоўных зон таго ж мемарыялу Курапаты рэстарацыі «Поедем, поедим» — іх улады ўпарта «не заўважаюць». А што вы хацелі: правы чалавека — яны такія, не для ўсіх.

Але тым, хто адзначае «свята міру» ля помніка Леніну, не варта забываць, што рэвалюцыі рыхтуюць геніі, робяць рамантыкі, а іх пладамі карыстаюцца прайдзісветы. Таму, якія б прыгожыя і палымяныя словы ні гучалі, у таталітарызму няма, ніколі не было і не будзе ніякіх правілаў, логікі і высокіх мэтаў. Адзіная магчымая яго мэта — знішчыць памяць, прымусіць людзей забыцца пра тое, кім яны ёсць, пра тое, чаго яны вартыя, каб пераўтварыць іх у паслухмяную шэрую масу, якой лёгка кіраваць і якая будзе з усім пагаджацца.

У гэтым сэнсе ўварванне ўладаў у Народны мемарыял Курапаты выглядае як чарговая спроба знішчыць памяць і пусціць пыл у вочы. І на тле таго, як «элегантна» 7 лістапада раптам стала «святам міру і сапраўдных правоў чалавека», ужо зусім не выглядаюць трызненнем меркаванні некаторых сталых




Фота Радыё Свабода

абаронцаў мемарыялу пра тое, што Курапаты неўзабаве могуць пераўтварыцца ў «парк культуры імя слаўнага чэкіста». Нам так доўга заціралі памяць, што, здаецца, гэткага павароту многія нават не заўважаць...

Можна, канешне, запярэчыць: маўляў, самі ж 30 гадоў казалі пра адсутнасць увагі да Курапатаў з боку дзяржавы — вось і атрымайце, што прасілі. Але ж прасілі зусім не гэтага. Прасілі прызнання і пакаяння. А атрымалі — звычайную адмазку, здзек і чарговы плявок у твар грамадскасці. Бо хіба выпадае казаць пра пакаянне, і ў той жа час святкаваць 100-годдзе рэвалюцыі, камсамолу, 7 лістапада, праводзіць праваслаўныя хросныя хады на «Лініі Сталіна», адмаўляцца зносіць помнікі савецкім катам, пераназываць вуліцы, не адкрываць архівы, дазваляць працаваць сумнеўнай рэстарацыі ў незаконна зменшаных ахоўных зонах мемарыялу?.. Гэта казуістыка, падмена паняццяў — што заўгодна, толькі не пакаянне.

Аднак, праводзячы «рэжымную мемарыялізацыю» Курапатаў, улады не ўлічылі, што насельніцтва ў Беларусі даўно ўжо не савецкае, і што за часы незалежнасці ў краіне пачала фармавацца такая-сякая грамадзянская супольнасць. Сучаснае пакаленне беларусаў не чакае, што дзяржава ўсё зробіць за іх, дый не хоча гэтага. Яно хоча самастойна прымаць рашэнні і быць пачутым. Для сённяшніх грамадзян Беларусі важна быць не проста безасабовай часткай «народных мас», а адчуваць сваю нацыянальную прыналежнасць, працаваць не дзеля «светлай будучыні» і ўяўнага прывіду камунізму, а дзеля дабрабыту — свайго, сваёй сям'і, сваёй краіны. Не таму, што «партыя сказала», а таму, што яны адчуваюць адказнасць за дзяржаву, у якой жывуць. А калі ёсць адказнасць (і, адпаведна, абавязкі), то мусяць быць і правы.

Толькі не трэба нам ніякіх «сапраўдных» правоў чалавека. Забяспечце спачатку хаця б самыя звычайныя.

# Працоўны кодэкс Беларусі можа стаць найгоршым у цывілізаваным свеце

**Старшыня Беларускага Незалежнага прафсаюза Мікалай Зімін распавёў, як незалежныя прафсаюзы ставяцца да некаторых зменаў у Працоўным кодэксе. І пра тое, што трэба рабіць кожнаму, каб выправіць сітуацыю.**

На восеньскай сесіі Палаты прадстаўнікоў плануюць у другім чытанні разгледзець законапраект аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Працоўны кодэкс, што былі прапанаваныя ўрадам.

Прынцыпова новым з'яўляецца ўключэнне ў кодэкс нормаў дэкрэтаў №5 і 29. Задача дэмакратычных прафсаюзаў — не дапусціць уключэння гэтых нормаў і пагаршэння Працоўнага кодэкса.

Аднак з юрыдычнага пункту гледжання для шараговых работнікаў нічога не зменіцца, таму што дэкрэты і так маюць сілу закона. Тое, што яны з'явяцца ў Працоўным кодэксе, ніяк не паўплывае на ўмовы працы работнікаў. Зрэшты, трэба нагадаць, што дэкрэты носяць часовы характар і праз пэўны перыяд мусяць быць адменены. Менавіта на гэтым і настойваюць незалежныя прафсаюзы з 1999 года — з таго часу, як быў прыняты дэкрэт №29 «Аб дадатковых захадах для ўдасканалення працоўных адносінаў, умацавання працоўнай і выканаўчай дысцыпліны», што ўвёў контрактную сістэму.

З тых часоў амаль усе працоўныя былі пераведзены на кароткатэрміновую форму найму. Пры гэтым пастанова Пленума Вярхоўнага Суда ад 26 чэрвеня 2008 года такая практыка прызнаная пагаршэннем прававога становішча працоўных. Гэта тлумачыцца проста: працоўныя страцілі права самастойна і без наступстваў звальняцца. Цяпер гэта магчыма толькі на падставе артыкула, пры змене месца жыхарства або паводле дамовы з наймальнікам. Да таго ж перад заканчэннем тэрміну дзеяння кантракту людзі хвалююцца, ці падоўжаць з імі працоўныя адносіны.

Акрамя таго, у Працоўны кодэкс плануецца ўнесці нормы дэкрэта №5, у адпаведнасці з якімі адміністрацыя мае права істотна змяняць умовы працы. Гэта дае нам падставы казаць пра тое, што ў краіне існуе прымусовая праца.

Беларускі Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) неаднаразова ўздымаў гэтыя пытанні на ўзроўні Міжнароднай арганізацыі працы і Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў.

Беларускі незалежны прафсаюз і прафсаюзы, якія ўваходзяць у БКДП, выступаюць не толькі супраць таго, каб нормы дэкрэтаў №5 і 29 былі ўнесеныя ў Працоўны кодэкс, але і за тое, каб цалкам гэтыя дэкрэты адмяніць. Перад пачаткам восеньскай сесіі мы даслалі больш за 110 лістоў з прапановай не галасаваць за гэтыя змены. Лісты былі дасланыя кожнаму дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, аднак мы атрымалі толькі з дзясятак адказаў.

На прадпрыемствах, там, дзе ёсць нашы пярвічныя арганізацыі, мы пачалі збор подпісаў за неўнясенне нормаў дэкрэтаў у Працоўны кодэкс. Збіраем электронныя подпісы пад петыцыяй.

Мы не плануем адмоўчвацца, нягледзячы на тое, што колькасць нашага прафсаюза не супастаўная з колькасцю чальцоў праўладнай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая ва ўнісон з «дэпутатамі» прасоўвае змены ў Працоўны кодэкс. Усё залежыць ад актыўнасці нашых людзей. Нішто не перашкаджае тым, хто нават не з'яўляецца чальцом нашага прафсаюзу, зайсці на сайт і паставіць подпіс супраць змяненняў у Працоўны кодэкс або накіраваць свайму дэпутату ліст з прапановай не галасаваць за гэтыя змены.

**Паводле praca-by.info, пераклад НЧ**

# Гандаль памяццю ці канструктыўнае рашэнне?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры вядзе перамовы з Леанідам Задэсам. Гэтую інфармацыю НЧ пацвердзіў намеснік старшыні Таварыства Юрый Меляшкевіч. Аднак удзельнікі Курапацкай варты выступаюць катэгарычна супраць падобных перамоў і прынялі адпаведную заяву.**

### «Пазіцыя абаронцаў Курапатаў — бальшавіцкая»

— Мы сустракаліся з Леанідам Зайдэсам, размаўлялі наконт таго, што варта рабіць для Курапатаў. Бо мы лічым, што пазіцыя, якую займаюць абаронцы, тупіковая, — распавёў Юрый Меляшкевіч. — Да Леаніда Зайдэса з пункту гледжання заканадаўства і выканання нормаў, якія мы прааналізавалі і шмат разоў прагаворвалі, у Таварыства прэтэнзій няма. Няма і патрабаванняў ліквідацыі рэстарана ці пасадкі яго (Зайдэса. — НЧ.) у турму. Мы прапанавалі яму зрабіць пэўныя крокі для таго, каб пашпартызаваць Народны мемарыял, распрацаваць экскурсійныя маршруты і зарэгістраваць іх у Міністэрстве спорту і турызму. Таксама мы прапанавалі яму правесці пэўныя мерапрыемствы па мемарыялізацыі Курапатаў з прыцягненнем прадстаўнікоў КДБ: мы напісалі ліст у дзяржбяспеку з просьбай абмеркаваць сітуацыю наконт доступу да архіваў і месцаў расстрэлаў, якія на сённяшні дзень не вядомыя. Ёсць яшчэ шэраг пытанняў, якія мы будзем абмяркоўваць на круглых сталах па ўшанаванні памяці ахвяр масавых палітычных рэпрэсій.

Таксама мы збіраемся распрацаваць дзве праграмы: адна — школьная, другая — універсітэцкая, якія будуць адлюстроўваць для школьнікаў і студэнтаў трагедыю масавых рэпрэсій у XX стагоддзі ў Беларусі. Таксама мы плануем аднаўленне крыжоў.

Гэта тое, што мы прапанавалі Леаніду Зайдэсу. Ён сказаў, што гэта канструктыўная праца, і гэта тое, што ён хоча, каб рабілася ў Курапатах.

Пакуль няма падпісаных папер, перш за ўсё трэба заключыць дамову на спонсарскую дапамогу. Сродкі, якія будуць паступаць, будуць прыходзіць на рахунак, усё будзе адкрыта і празрыста.

***— Але ж вы разумееце, што ёсць шмат нязгодных з такім падыходам.***

— Я з імі размаўляў. З майго пункту гледжання, яны займаюць пазіцыю бальшавіцкую, якая часам выглядае на раскулачванне бізнесоўца. Мая сям'я пацярпела ў рэпрэсіях, я ведаю, што гэта такое знутры, ад сваёй бабулі, якая распавядала, як на падводах вывозілі самых заможных людзей. Таму з бізнесоўцамі так сябе паводзіць нельга, гэта шлях у нікуды.

***— Ці можаце акрэсліць суму, пра якую ідзе гаворка?***

— Як будзе заключана спонсарская дамова, можна будзе спраўдзіць усе акалічнасці, гэта будзе адкрытая інфармацыя.

### «Атрыманне грошай ад Зайдэса — адкрытая карупцыя»

У сваю чаргу, абаронцы Курапатаў выступілі з заявай, у якой акрэсліваюць свой пункт гледжання на перамовы. Прыводзім поўны тэкст заявы.

«Мы, удзельнікі Варты абароны Курапатаў, якая ўжо больш за 5 месяцаў здзяйсняе сваю дзейнасць у межах выканання Прадстаўлення Генеральнай пракуратуры РБ № 0703-05д-1745 ад 17.11.2012 г., а таксама Прадпісання Міністэрства Культуры РБ № 11-02-02/018 ад 30.10.2012 г. што да незаконнай пабудовы рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем, поедим» (былыя назвы «Бульбашъ-холл», «Дача», далей — рэстарацыя «Поедем, поедим») у ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці 1-й катэгорыі «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій (1930–1940-я гг.) ва ўрочышчы Курапаты» (далей — мемарыял Курапаты), падчас якой учынены самавольны захоп зямлі, парушаны арт. 37 Закону РБ пра ахову гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь, выяўленая адсутнасць неабходных дазволаў і ўхваленай праектнай дакументацыі, заяўляем:

1. Ніякіх пасярэднікаў дзеля перамоваў з уласнікамі рэстарацыі, у тым ліку з Леанідам Зайдэсам, мы не прызначалі і не абіралі.
2. Усе асобы, якія называюць сябе пасярэднікамі, у тым ліку Юрась Меляшкевіч, дзейнічаюць ад свайго імя і са сваёй асабістай зацікаўленасцю.
3. Любыя перамовы, размовы з уласнікамі ТАА «Белнаватэкс груп», СТАА «БелРэстІнвэст», ТАА «Амізбел», у тым ліку і з Леанідам Зайдэсам, могуць адбывацца толькі пры ўмове закрыцця рэстарацыі «Поедем, поедим», і толькі з удзелам давераных асобаў абаронцаў мемарыялу Курапаты.
4. Перадачу любым з пералічаных у п.3 уласнікаў кампаніяў альбо іх даверанымі асобамі грашовых сродкаў фізічным ці юрыдычным асобам, дзейнасць якіх можа быць звязаная з мемарыялам Курапаты, лічым:
   - 4.1. спробай гэтых уласнікаў увесці ў зман і расколаць грамадства;
   - 4.2. Намерам палепшыць негатыўную дзелавую рэпутацыю кампаніяў, звязаных з рэстарацыяй «Поедем, поедим»;
   - 4.3. Дадатковым пацверджаннем меркаванай карупцыйнай схемы пабудовы рэстарацыі «Поедем, поедим», якая для многіх стала відавочнай пасля асабістага сведчання Леаніда Зайдэса пра фінансаванне ў памеры 40 000 доляраў ЗША прац дзеля легалізацыі і вывядзення гэтай рэстарацыі з ахоўнай зоны мемарыялу Курапаты;
   - 4.4. Доказам непасрэднага ўдзелу гэтых фізічных ці юрыдычных асобаў у кампаніі дыскрэдытацыі мемарыялу Курапаты.
5. Рашуча асуджаем намер сябраў Грамадскага аб'яднання «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» (БДТАПГК) узяць нібыта на патрэбы мемарыялу Курапаты грашовыя сродкі ад Леаніда Зайдэса, бо нельга гандляваць Памяццю, заклікаем адмовіцца ад гэтых грашовых сродкаў.
6. Атрыманне сябрамі БДТАПГК грашовых сродкаў ад уласнікаў пералічаных у п.3 кампаній будзе сведчыць пра адкрыты карупцыйны чыннік дзейнасці чальцоў гэтага таварыства, а таксама пра спрыянне кампаніі дыскрэдытацыі мемарыялу Курапаты.

# Мінгарвыканкам «не вызначыў дату», калі ўсталююць «дошку БНР»

**Неафіцыйны дазвол на дошку Мінгарвыканкамам быў дадзены яшчэ 1 сакавіка. На новую дошку сабралі грошы цягам трох гадзінаў — старая была ўжо не ў найлепшым стане, бо чакала ўстаноўкі чвэрць стагоддзя. «Радыё Свабода» паведамляе, у якім стане цяпер знаходзіцца сітуацыя з усталяваннем дошкі.**

Дырэктар крамы Symbal.by Павал Белавус атрымаў адказ ад мінскіх уладаў адносна даты ўстаноўкі мемарыяльнай шыльды на мінскім доме, дзе 25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Паводле адказу намесніка старшыні Мінгарвыканкаму Ігара Юркевіча, які Павал Белавус апублікаваў на Facebook, дата рашэння «не вызначана, бо на дадзены момант разглядаецца пытанне аб мэтазгоднасці прыняцця такога рашэння».

«Зараз дашлю новы зварот з пытаннем, калі плануецца прыняць рашэнне і вызначыць дату», — піша Белавус.

Юркевіч у адказе на зварот абяцае, што будзе ўлічанае меркаванне «ўсіх зацікаўленых», і згадвае, што ў Мінгарвыканкам паступіла «больш за тры тысячы пісьмовых і электронных зваротаў» ад грамадзянаў і юрыдычных асобаў адносна ўсталявання дошкі.

Колькі з тых зваротаў былі за тое, каб дошку павесілі, а колькі супраць, Юркевіч не ўдакладніў. Але электронная петыцыя за «дошку БНР» сабрала на момант публікацыі больш як 3300 подпісаў. Колькі грамадзянаў было супраць «дошкі БНР», Юркевіч раней адмовіўся казаць, хоць яго пра гэта прасілі.

Раней ад уладаў дабіліся адказу пра колькасць зваротаў адносна перайменавання станцыі метро «Плошча Леніна» ў «Плошчу Незалежнасці». Аказалася, што 31 ліст быў з адмоўным стаўленнем да прапановы, а петыцыі за перайменаванне падпісалі 155 чалавек адну і 571 чалавек другую. Назву станцыі, якую часам жартам называюць «Незаленіна» або «Ленінежнасці», дагэтуль не прывялі ў адпаведнасць з назвай плошчы, перайменаванай у 1991 годзе.

Тым часам беларускія ўлады фактычна ігнаруюць абвяшчэнне незалежнасці БНР у якасці даты, звязанай з незалежнасцю сучаснай Беларусі. Адзначаць збіраюцца 100-годдзе БССР, а адлічваць незалежнасць сучаснай Беларусі прапануюць не з 1991 года, а з 1994-га, калі да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Мост, стабільнасць, рэвалюцыя…

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**На мінулым тыдні, зрэшты, як і на іншых, адным з галоўных ньюсмейкераў быў кіраўнік Беларусі. І мост праз Прыпяць урачыста адкрываў, і палякаў за вайсковую базу папракаў, і пра правы чалавека згадаў, хоць і ў дзіўным рэчышчы.**




«Людзі ішлі незразумела на якую вайну і гінулі. Правa чалавека на жыццё было зруйнавана, а таксама права на працу — людзі не мелі працы, кавалка хлебу. Як яны маглі жыць і карміць свае сем'і? … Менавіта таму Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта свята міру і правоў чалавека», — сказаў Аляксандр Лукашэнка з нагоды 7 лістапада.

Вось так! 7 лістапада атрымала самую незвычайную назву — «Свята міру і правоў чалавека». І якая розніца, што ахвярамі наступстваў таго перавароту сталі дзясяткі мільёнаў. Што ні пра якія правы чалавека (нават правы працоўных) усе 70 гадоў (а ў нас дык і ўсе 100) нават мовы не было. Што практычна нідзе больш на постсавецкай прасторы на дзяржаўным узроўні гэта дата святам не лічыцца. А што да міру, дык варта толькі ўзгадаць, у якой безлічы канфліктаў па ўсім свеце ўдзельнічаў СССР.

Дарэчы, пра мір. Як заявіў кіраўнік Беларусі на сустрэчы з жыхарамі пасёлка Балбасава: «Я міністру замежных справаў (Польшчы. — рэд.) сказаў — ён выступаў у нас у Мінску: мы з вамі ваяваць не збіраемся. Таму не трэба ствараць лішнія базы. У адваротным выпадку мы з расіянамі павінны будзем адказваць. Значыць, мы будзем вымушаныя нешта разъмшчаць, каб вам процідзейнічаць».

Гэта ён пра намер Польшчы стварыць сумесную з ЗША вайсковую базу. Зразумела, што афіцыйнага адказу на гэтыя словы не было і не будзе. Але вось былы пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка ў сваім Фэйсбуку кіраўніку Беларусі адказаў: «Шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, у нас няма лішніх базаў, затое не хапае патрэбных. Калі расійскія жаўнеры выйдуць з Грузіі, Украіны, а таксама з Беларусі, тады можна будзе гандляваць. А пакуль гэта ў вас ёсць нагода гандлявацца з Масквой за большыя датацыі».

А ўжо на сустрэчы з групай амерыканскіх аналітыкаў Аляксандр Лукашэнка заявіў, што не бачыць неабходнасці ў стварэнні вайсковых базаў іншых дзяржаў, у тым ліку Расіі, на тэрыторыі Беларусі.

Вось і думайце цяпер, гэта ўжо гандаль пачаўся ці наконт ваенных базаў у нас папросту яшчэ няма выпрацаванай пазіцыі.

Затое цікавая для дзелавых колаў Беларусі пазіцыя ёсць у дырэктаркі дэпартамента па далучэнні новых краін Сакратарыяту Сусветнай гандлёвай арганізацыі (WTO) Майкі Ашыкавай. Яна лічыць, што Беларусь мае «рэальны шанец» уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю ў 2020 годзе. Пра гэта Ашыкава заявіла на Кастрычніцкім эканамічным форуме.

Цягам 25 гадоў Беларусь вядзе складаныя перамовы пра ўступленне ў WTO.

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Андрэй Яўдочанка спадзяецца, што да першага квартала 2019 года Беларусь завершыць перамовы з усімі партнёрамі, акрамя ЗША. «Ужо завяршылі перамовы з 19 партнёрамі. Усё, што нас стрымлівае, — невялікая перамоўная каманда», — сказаў Андрэй Яўдочанка.

А вось шчадроты чыноўнікаў, здаецца, нічога не стрымае. Лічбай тыдня можна назваць падарунак кіраўніка Следчага камітэта Івана Наскевіча малой радзіме. За бюджэтныя грошы чыноўнік падараваў вёсцы Цярэблічы Столінскага раёна абноўлены ўчастак аўтадарогі. Старшыня Следчага камітэта асабіста прыняў удзел у адкрыцці рэканструяванага ўчастка аўтадарогі «Вялікае Мелешава — Рамель —Альшаны», паведамляе прэс-служба камітэта. — Адкрыццё гэтай дарогі — гэта самае малое, што можна зрабіць для роднай вёскі, — адзначыў у прывітальным слове Іван Наскевіч. — Але Год малой радзімы не заканчваецца. Мы і раней не планавалі спыніцца толькі на аднаўленні гэтай дарогі, працуем далей. Зараз ёсць дамоўленасць з мясцовымі органамі ўлады аб рэканструкцыі чарговага ўчастка мясцовай аўтадарогі».

Кошт падарунка 1,4 мільёна рублёў. Агульная працягласць адрамантаванага ўчастку дарогі складае 4,6 кіламетра.

Яшчэ адна лічба тыдня іншага кшталту. На прэс-канферэнцыі старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гусакоў адзначыў, што заробатная плата ў навукоўцаў значна павысілася — асабліва ў тых, хто мае гранты і рэалізуе розныя праекты. А дырэктар Інстытута фізікі Міхалай Казак назваў канкрэтныя лічбы, якія прыводзіць belta.by: «Чым больш эфектыўна працуе супрацоўнік, тым большую ён атрымае надбаўку. Некаторыя супрацоўнікі атрымліваюць больш за 4 тысячы беларускіх рублёў на месяц. Гэта добрая зарплата. Пры экспарце ажыццяўляецца прэміраванне».

Аднак у акадэміка Аляксандра Вайтовіча іншая матэматыка. «Я не лічу, што працую горш за іншых, ці ў мяне нешта не атрымліваецца, — кажа былы кіраўнік НАН. — Наадварот, усё добра. І ўжо дакладна не горш за іншых. А што тычыцца зарплаты, то перада мной ляжаць разліковыя аркушы. І лічбы такія. За студзень я атрымаў 351 рубель. За люты — 445. За сакавік — 587. За чэрвень я атрымаў 545 рублёў (у адпачынку не быў, таму гэта поўная зарплата). За верасень — 1541 рубель. Але тут далі прэмію — ажно 800 рублёў! З'явіліся грошы ў Інстытуце за тры квартала — іх вось так размеркавалі. За кастрычнік у маім разліковым аркушы — 496 рублёў. Акрамя зарплаты, навукоўцы атрымліваюць даплаты за званні і ступені. Кандыдат навук — 120 рублёў. Доктар навук — 170. Член-карэспандэнт — 372. Акадэмік — 434. Гэтыя сумы прывязаныя да тарыфнай стаўкі першага разраду. Калі яна расце, то і гэтыя лічбы нязначна змяняюцца».

Вось і каму цяпер верыць?

Пакуль вы думаеце над адказам, згадаю яшчэ адну тыднёвую цікавостку. Канстытуцыйны суд Беларусі прапанаваў ураду распрацаваць законапраект, які прадугледжвае забарону на фота- і відэаздымку грамадзян без іх папярэдняга дазволу.

У рашэнні гаворыцца, што мэта законапраекту — забеспячэнне канстытуцыйнага прынцыпу вяршэнства права, абароны грамадзянска-прававымі сродкамі ад незаконнага ўмяшання ў асабістае жыццё, ліквідацыя нявызначанасці ў прававым рэгуляванні выкарыстання і ахова выявы грамадзяніна. Радавацца гэтаму ці не, вырашайце самі. Вось толькі зноў узнікае пытанне: пасля прыняцця гэтага закона людзі ў цывільным на акцыях пратэсту таксама не змогуць здымаць людзей без іх дазволу?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святлана Коржыч



**Маці Аляксандра Коржыча, салдата, які за гінуў у войску, не згодная з прысудам.**

Сяржанты Яўген Бараноўскі, Антон Вяжэвіч і Ягор Скуратовіч, абвінавачаныя ў давядзенні да самагубства радавога Аляксандра Коржыча, прыгавораныя да дзевяці, сямі і шасці гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Такое рашэнне 5 лістапада прыняў суддзя Мінскага абласнога суда Алег Лапека.

«Я не згодная, — кажа Святлана Коржыч. — Хачу перш за ўсё трапіць да Аляксандра Рыгоравіча ў прысутнасці міністра абароны. Гэтае бязмежжа яшчэ працягваецца. А калі б былі прынятыя больш суровыя меры, калі б адбыліся кардынальныя змены. Аказалася, войска ў нас добрае. Я лічу, гэта па галоўцы пагладзілі, знайшлі самае слабае звяно — сяржантаў. Афіцэры наогул не пры справах. Бязмежжа і свавольства!

Са мной звязаліся маці апошніх ахвяр. Маці салдата за Слоніма распавяла, што сын ёй сказаў: «Мама, калі мяне не камісуюць, я ўцяку», — праз дзве гадзіны яго ўжо не стала.

Калі б былі прынятыя больш строгія, суровыя меры, то кардынальныя змены адбыліся б. А так у нас ніхто нікога не баіцца. Паборы без канца. Або ў ваенкамаце заплаціць гэтыя грошы, або ў арміі. Дык, магчыма, нам нарэшце на кантрактную армію перайсці, а не эксплуатаваць гэтую бясплатную працоўную сілу?»

Нагадаем, 3 кастрычніка 2017 года 21-гадовага радавога Аляксандра Коржыча знайшлі ў пятлі са звязанымі нагамі і надзетай на галаву майкай у склепе медыцынскай роты вайсковай часткі ў Печах пад Барысавам. Некалькі саслужыўцаў Коржыча на пасяджэнні паведамілі, што чулі, быццам майка была абматаная скотчам. 5 кастрычніка ў якасці першапачатковай версіі следства назвала суіцыд. Справа атрымала вялікі рэзананс у грамадстве, яна знаходзілася на асабістым кантролі ў Аляксандра Лукашэнкі. Расследаванне цягнулася каля 9 месяцаў.

## Таццяна Каравянкова



**Журналістцы інфармагенцтва БелаПАН выстаўлена абвінавачванне па «справе БЕЛТА».**

Таццяна Каравянкова мусіць аплаціць шкоду, якую яна, паводле меркавання Следчага камітэта, нанесла БЕЛТА.

Пасля допыту і прад'яўлення абвінавачвання Таццяна Каравянкова распавяла, што яна мусіць сплаціць шкоду ў памеры «не больш за пяць тысяч рублёў». Дакладную суму журналістка пакуль адмовілася называць.

— Мы самі не разумеем, навошта гэта (маецца на ўвазе «справа БЕЛТА». — рэд.). Але відавочна, што гэта — найперш ціск на Tut.by, якому больш за ўсё дасталася. Гэтым разам быў допыт такі ж, як і раней. Нічога асаблівага.

Адзінае, пакуль я там знаходзілася, супрацоўнікаў Следчага камітэта павіншавалі з надыходзячым святам па гучнай сувязі і абвясцілі, што сёння скарочаны працоўны дзень. І я, атрымліваецца, затрымала сёння следчага на працы», — распавяла Таццяна Каравянкова.

Нагадаем, што Каравянкова і іншыя фігуранты «справы БЕЛТА» знаходзяцца пад падпіскай аб нявыездзе. З гэтай нагоды Таццяна Каравянкова, якая асвятляе ў БелаПАН міжнародную палітыку, была вымушаная адмовіцца ад некалькіх важных камандзіровак, за яе паехалі калегі.

Абвінавачванне таксама высунутае галоўнаму рэдактару БелаПАН Ірыне Леўшынай, карэспандэнту «Deutsche Welle» Паўлюку Быкоўскаму і шасці рэдактарам Tut.by.

## Вікторыя Азаранка



**Вядомая беларуская тэнісістка вярнулася да супрацоўніцтва з бельгійскім трэнерам Вімам Фісетам.**

Вікторыя Азаранка працавала з бельгійцам у 2015–2016 гадах, калі выйграла ў 2016-м тры тытулы на турнірах WTA (у Брысбене, Індыян-Уэлсе і Маямі). З лістапада 2017-га да сярэдзіны кастрычніка 2018-га Вім Фісет працаваў з немкай Ангелікай Кербер і дапамог ёй выйграць Уімблдон і турнір у Сіднэі. Бакі спынілі супрацоўніцтва «ў сувязі з рознагалоссямі адносна будучыні». У каманду Азаранка таксама вярнуўся фізіятэрапеўт Фабрыс Гацье, з якім яна працавала ў 2014–2016 гадах.

Твітар WTA Insider апублікаваў спіс тэнісістак, якія лідзіруюць па колькасці прызавых, зробленых за кар'еру. Беларуска Вікторыя Азаранка ў гэтым рэйтынгу займае 5-е месца. У актыве былой першай ракеткі свету Вікторыі Азаранкі — больш за 29 мільёнаў долараў.

# «У гэтай дзяржаве несвабодныя ўсе»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Былы палітвязень выйшаў на волю, але і пасля вызвалення праваахоўнікі спрабуюць устанавіць за ім кантроль.**



Фота НЧ

Зміцер Паліенка вызваліўся з бабруйскай папраўчай калоніі №2, дзе адбываў 1,5 года пакарання. Ён распавёў чытачам «НЧ» пра жыццё і ціск у зняволенні, пра тое, што яго падтрымлівала, і пра бліжэйшыя планы.

***— Ты на волі… Як адчуваеш сябе фізічна, маральна?***

— Ужо адаптаваўся, адчуваю сябе добра, амаль з усімі сустрэўся, усе вельмі радыя. Калі я выйшаў з цягніка на вакзале і ўбачыў сяброў, якія прыехалі мяне сустракаць, увогуле страціў дар маўлення.

Адзінае, цяпер вельмі шмат спраў і падзей. Кожны дзень мне трэба хадзіць у РУУС на лекцыі — і так да таго часу, пакуль я афіцыйна не працаўладкуюся і не прынясу ім дакументы. Але я не хацеў бы працаўладкоўвацца афіцыйна — максімум, па дамове падраду. Я так працаваў, і мне хапала на жыццё. Я лічу, што калі ёсць галава і рукі, чалавек не прападзе. А калі ўладкоўвацца некуды афіцыйна, я ведаю, што ў мяне будуць праблемы з гэтым.

Лекцыі ў РУУС ніяк не паспрыяюць майму працаўладкаванню, але калі я не з'яўлюся на іх, на мяне складуць пратакол па артыкуле 23.4 КоАП за непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі, які прадугледжвае арышт альбо штраф. Я лічу, што такім чынам мяне вырашылі кантраляваць: за мной не могуць пакінуць нагляд, бо ў мяне не такі цяжкі артыкул.

***— Як для цябе прайшлі два гады ў зняволенні, чым ты займаўся, якія ўмовы былі ў калоніі?***

— Насамрэч, умовы былі больш-менш нармальныя. Цяжка было першы час з ежай, з рэжымам, але пасля прывык. Чалавек да ўсяго прывыкае.

Спачатку я працаваў у прамысловай зоне, мы рабілі пальчаткі для металургічнага завода. Зарплату плацілі цыгарэтамі: два—тры пачкі на месяц. Калі вызваляўся з калоніі, хлопцы казалі, што ім увогуле перасталі плаціць.

Мне цяжка было працаваць па стане здароўя. У мяне з дзяцінства шмат хранічных захворванняў, у тым ліку бранхіяльная астма, таму я проста задыхаўся, бо там паўсюль быў пыл. Хаця, калі я толькі прыехаў у калонію, урач з санчасткі паставіў мне забарону на працу. Але каля года я працаваў з забаронай. Пазней праз алергію на пыл у мяне пачаліся праблемы з нагой: з'явіўся дэрматыт, які перарос у экзему. Паўгода я лячыў нагу: мне давалі зялёнку — і больш нічога. І толькі калі я напісаў у ДВП (Дэпартамент выканання пакаранняў. — НЧ.) ліст, каб мяне перавялі ў шпіталь, мяне прывезлі ў Жодзіна і вылечылі нагу літаральна за некалькі дзён. А калі я вярнуўся ў калонію, мяне знялі з працы. Я думаю, дапамагло яшчэ тое, што інфармацыя пра мяне трапляла ў СМІ, а адміністрацыя не хацела праблем.

***— А ты сам атрымліваў прэсу, як даведваўся пра навіны?***

— Так, прыходзілі газеты, у тым ліку «Новы Час». Праўда, два нумары за верасень мне не прыйшло. Часам прыходзілі газеты з выразанымі артыкуламі: цэнзар лічыў, што з нейкіх прычын мне не трэба гэта чытаць. Хаця бачыў і артыкулы пра сябе. Але інфармацыя, у любым выпадку, даходзіла да мяне праз сяброў. Альбо я прасіў іншых зняволеных пазваніць маім сябрам і папрасіць, каб распавялі пра навіны.

Канешне, не мог усяго напісаць, пра што хацеў, бо была цэнзура. Напрыклад, калі я пісаў свае думкі наконт абароны Курапатаў, што я б зрабіў, мне сказалі перапісаць ліст, бо палічылі яго заклікам да пэўных дзеянняў.

***— Раскажы пра ціск, які на цябе аказвалі ў калоніі.***

— У ШІЗА мяне накіроўвалі на самым пачатку, калі я з каранціну перайшоў у атрад. Я не ведаю матываў, паводле якіх гэта рабілі. Відаць, для таго, каб зрабіць мяне злосным парушальнікам. Гэта азначае абмежаванне ў пасылках, ліміт грошай на атаварку (дзве базавыя велічыні за месяц), адмова ў дадатковых тэлефанаваннях родным і ў доўгатэрміновых спатканнях з імі. Яшчэ ў мяне было меркаванне, што мяне хацелі раскруціць на 411-ы артыкул — злоснае непадпарадкаванне, каб вывесці на турму і ізаляваць.

Іншыя зняволеныя баяліся са мной стасавацца, бо ім пагражалі абмежаваннямі спатканняў ці пазбаўленнем пасылак. Але са мной кантактавалі людзі, у якіх былі маленькія тэрміны і якім не было чаго губляць. Таксама былі тыя, каму прапаноўвалі даносіць на мяне ў абмен на ўмоўна-датэрміновае вызваленне ці яшчэ нешта. Але я не ведаю такіх, хто б пагадзіўся.

***— Як можна адстойваць свае правы ў зняволенні?***

— Абскарджваць пастановы не мае ніякага сэнсу. Напрыклад, мяне ставяць на ўборку прыбіральні. Але я не магу гэтага рабіць, для гэтага ёсць асобныя людзі — так трэба. І адмова лічыцца грубым парушэннем. Так было два разы. Першы раз я адмовіўся — і трапіў у ШІЗА. Але калі ў СМІ з'явілася інфармацыя пра гэта, адміністрацыя гэта вельмі напружвала, і яны шукалі іншыя спосабы ціску: пазбаўлялі спатканняў, пасылак, але ў ШІЗА больш не саджалі. Агулам там я праседзеў 27 сутак — гэта не так шмат. Звычайныя людзі могуць за раз трапіць на 100 сутак у ШІЗА — і гэта без выхаду. Яны не атрымліваюць лістоў, перадач, цыгарэт. Усё, што ёсць у іх камеры, — зубная шчотка, мыла, ручнік. З мэблі — столік, зэдлік, нары, якія адшпільваюцца, і прыбіральня. Больш нічога няма.

***— Колькі разоў удалося паразмаўляць з роднымі?***

— Тэлефанаванні ў нас былі тры — чатыры разы на месяц. Адзінае, што напружвала, — я быў на кантролі. Я тэлефаную бацьку (больш я не маю права нікому званіць), наглядчыкі правяраюць нумар, які я набіраю, бяруць слухаўку, пераконваюцца, што гэта бацька, я размаўляю, а яны слухаюць, што я кажу. Час на размовы адводзіўся 10 хвілін. Па законе павінна быць 15, але не ўсе паспяваюць патэлефанаваць.

Былі спатканні з бацькам, праўда, кароткатэрміновыя — я з ім праз шкло размаўляў. А доўгатэрміновае спатканне ні разу за ўвесь тэрмін не дазволілі. Не ведаю, чаму.

***— Прызнанне цябе палітвязнем неяк адбілася на ўмовах твайго ўтрымання?***

— Гэта палепшыла мае ўмовы. Прывяду прыклад: я знаходзіўся ў ШІЗА, і там быў такі Стас Ганчароў. Ён быў асуджаны за распальванне міжнацыянальнай варажнечы і нацысцкія погляды, а таксама за найміцтва — ваяваў у палку «Азоў» ва Украіне. На яго «навешалі» ўсяго: схільны да ўцёкаў, да суіцыду, і літаральна за два месяцы яго ізалявалі ў турму па 411 артыкуле. А са мной дзякуючы статусу палітзняволенага так зрабіць не змаглі.

***— Як увогуле адміністрацыя ставіцца да зняволеных?***

— Іх не лічаць за людзей. Я заўважыў, калі яшчэ сядзеў у СІЗА: калі ты там знаходзішся, цябе ўжо лічаць вінаватым і думаюць, што ты ўжо не чалавек. Робяць усялякія брыдасці. Са мной быў выпадак. Я рабіў для сяброў розныя самаробныя паштоўкі, і аднойчы зрабіў букецік, які хацеў адправіць адной дзяўчынцы. Але мне сказалі, што, паколькі ён не празрысты, яго нельга дасылаць. Тады я прапанаваў перарабіць, і мне дазволілі. Калі я перарабіў і зноў адправіў, мяне выклікалі і сказалі, што ўсё роўна нельга. Хаця ў іншых зняволеных такіх праблем не было. Пасля гэтага я пайшоў да намесніка начальніка калоніі, ён пры мне патэлефанаваў цэнзару, які чытае лісты, і цэнзар сказаў, што можна, і што нічога забароненага тут няма. Альбо яшчэ выпадак: пішу дзяўчыне ліст, а яна мне піша ў адказ: «Навошта ты мне даслаў нейкую жабу?» То бок, аператыўнікі, чытаючы мае лісты, маглі падкінуць у іх што заўгодна, і рабілі такую поскудзь.

***— Што для цябе было самым цяжкім у зняволенні і што дапамагала трымацца?***

— Самае складанае — адсутнасць побач блізкіх людзей, іх вельмі не хапала. А яшчэ мне напісала дзяўчынка, яна рабіла ўсялякія прыгожыя паштоўкі і дасылала мне. Я вельмі хацеў з ёй сустрэцца, і на днях гэта зрабіў. Увогуле, мне пісала вельмі шмат людзей з розных краін: Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Англіі… Я ўсім адказваў. Гэта вельмі падтрымлівае, кожны ліст — як глыток свежага паветра з волі.

Пісаў лісты, чытаў кнігі, па вечарах мы глядзелі фільмы. Ніколі не было страху ці пачуцця безвыходнасці. Трымацца дапамагала думка, што я тут не надоўга, а хто сапраўды ў няволі — гэта адміністрацыя, якая заўжды знаходзіцца ў калоніі.

***— Можа, ёсць мара, якую ты хацеў бы здзейсніць?***

— Я хацеў бы паехаць у Львоў і ў Карпаты, зладзіць тур па беларускіх гарадах, бо я мала дзе быў. Але, напэўна, гэта будзе яшчэ не хутка, бо трэба ўладкаваць шмат спраў.

Я ўжо на волі, у коле сяброў, і хоць да канца не свабодны ў дыктатарскай дзяржаве, але прынамсі магу ўсіх убачыць. А вось мае сябры ўсё яшчэ знаходзяцца ў зняволенні, і некаторым яшчэ сядзець па 8 гадоў. Гэта антыфашысты Ілля Валавік і Вадзім Бойка. Святаслаў Барановіч, які на дазволенай акцыі ўступіўся за маіх таварышаў, і за тое, што бараніў хлопцаў і ўдарыў у твар гопніка, які аказаўся міліцыянтам, атрымаў тры гады. Сядзіць праваабаронца Міхаіл Жамчужны. Цяпер галоўнае — калі не вызваліць гэтых людзей, то максімальна ім дапамагчы, нельга пра іх забываць. Сувязь паміж зняволенымі забароненая, але я пісаў пару словаў кшталту «Прывітанне, будзь здаровы, трымайся» і дасылаў свайму сябру, які перасылаў іх ім.

***— Ты выйшаў на волю, але ці адчуваеш сябе свабодным?***

— У гэтай дзяржаве несвабодныя ўсе. І хоць я ўжо не за кратамі, але гэта тая ж няволя. Ёсць ілюзія свабоды. У нас такі менталітэт, што людзі абыякавыя адзін да аднаго і да таго, што адбываецца. Яны пачынаюць выказваць нейкі пратэст толькі тады, калі праблема закранае іх асабіста. Той жа прыклад прадпрымальнікаў альбо тых, каго закрануў дэкрэт аб дармаедах. Але гэтыя людзі не выходзяць святкаваць Дзень Волі, не прыходзяць на Чарнобыльскі шлях. Яны добра ведаюць, што ў Беларусі няма выбараў, што дзяржаўныя СМІ хлусяць, але яны проста з гэтым мірацца. Яны баяцца і не хочуць пратэставаць — і гэта вельмі крыўдна. Паміж людзьмі няма сувязі і салідарнасці.

***— Па-твойму, шлях да пераменаў магчымы праз выхад на вуліцу?***

— А я не бачу іншых спосабаў. Збіраць нейкія подпісы бессэнсоўна, голас чалавека будзе пачуты толькі на вуліцы. Я буду працягваць змагацца з рэжымам, толькі больш прадумана. А тое, што я на кантролі… У нас амаль уся краіна знаходзіцца на кантролі — нічога страшнага ў гэтым няма.

***

*Зміцер Паліенка ўжо на волі. Але наша падтрымка і салідарнасць патрэбны тым, хто застаецца за кратамі. Дашліце ім ліст ці паштоўку!*

*Беларускі краязнаўца, грамадскі дзеяч* **Алесь Яўгенавіч Юркойць** *(211300 Віцебская вобл., г.п. Віцьба, ПК-3, атр. №8)*

*Праваабаронца, выкладчык, кандыдат тэхнічных навук* **Міхаіл Ігаравіч Жамчужны** *(213410 Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Дабралюбава,16, ПК-9 ПКТ)*

*Антыфашыст, футбольны аматар, трэнер* **Ілля Ігаравіч Валавік** *(212013 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК-15, атр.11)*

*Беларускі добраахвотнік ва Украіне* **Тарас Іванавіч Аватараў** *(211300 Віцебская вобл., г.п.Віцьба, ПК-3, атр. 3)*

*Прадпрымальнік, грамадскі актывіст* **Святаслаў Уладзіміравіч Барановіч** *(222160, Мінская вобласць, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22-а, СТ-8)*

*Антыфашыст, футбольны аматар* **Зміцер Цехановіч** *(211300 Віцебская вобл., г.п. Віцьба, ПК-3, атр. 10)*

*Антыфашыст, футбольны аматар* **Вадзім Сяргеевіч Бойка** *(213004 г. Шклоў, п. Маладзёжны, ПК-17)*

*Антыфашыст, футбольны аматар* **Філіп Іваноў** *(211300 Віцебская вобл., г.п.Віцьба, ПК-3)*



> У галаве закруцілася новае слова: «развод». Толькі развод! Каб гэты здраднік і хлус не лічыўся маім сужэнцам нават па пашпарце! Рашыцца дапамог, як ні дзіўна, астролаг. Ён зірнуў на планшэт і вынес вердыкт: у вас разводны гараскоп. Ну, калі ўжо на родзе напісана!.. Мабыць, мне трапіўся дужа разумны чалавек, бо дадаў на развітанне: адзваніце мне праз паўгода

# «Нябачныя свету слёзы»: ці варта плакаць?

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Тэма хатняга гвалту старая як свет. Належыць яна да сферы асабістага, прыватнага, і таму звычайна застаецца ўтоенай. Дзеці не толькі траўмуюцца скандаламі і бойкамі бацькоў, горш за ўсё тое, што яны пераймаюць мадэлі паводзінаў. Хлапчукі перакананы, што «павучыць» кулакамі — цалкам прымальна, а дзяўчынкі вырастаюць гатовымі ўсё даравацць хатнім бандытам.**

Хатні гвалт у большасці выпадкаў звязаны з п'янствам і непазбежнай дэградацыяй асобы. У мяне з алкаголем свае рахункі.

Да шасці гадоў я гадавалася ў дзеда з бабай і не бачыла, што адбывалася ў бацькоў без мяне (яны працавалі ў суседнім раёне). Брацікa, ва ўсялякім разе, мне састругалі. Збудаваўшы дом, бацькі забралі і мяне. Што тата п'е, я зразумела ў класе шостым. Прыняўшы ўмераную дозу, ён не біўся, а наадварот — лагаднеў. Пад градусам быў пастаянна. На ўсіх здымках — нават для дакументаў — гэта добра бачна.

Як выпускнік Горацкай сельгасакадэміі і талковы спецыяліст, ён мог бы пайсці вышэй за дырэктара саўгаса. Але з цягам часу яго стан прыйшоў у супярэчнасць і з гэтай пасадай. Угару не даў пайсці той самы тып, пра якога да ночы не ўспамінаюць.

Слуцкая баба Маня расказвала, як сына яшчэ падлеткам, непрытомнага, везла дадому ў вазку. Пітушчым быў яе бацька. Гэтая навала ўсё ж перадаецца ў спадчыну, што б там ні сцвярджалі наркологі.

Дома галава сям'і не стыкаўся з-за працы. Не памятаю, каб ён са мною загаварыў. Тое ж было і з маці. Яе вочы ўвесь час глядзелі ўдалеч, яна думала нейкую цяжкую думу, але ні з кім ёю не дзялілася. Разам мы не снедалі і не абедалі, нікуды не выходзілі, не ладзілі святаў. Дух сям'і ў нас пасяліцца не змог.

Маці на людзях рабіла выгляд цалкам задаволенай жыццём жанчыны. Яна паводзіла сябе як тыповая ахвяра: цярпела і маўчала. Усё бачыла і ўсё разумела, але «не выносіла смецце з хаты». Прабірала мужа ціха, каб хаця ніхто не пачуў. Так яно і працягвалася: «халодная вайна» ў доме, нябачныя свету слёзы, марудлівае спаўзанне залежнага чалавека ў бездань. З яе бацька не выбраўся да сваёй раптоўнай смерці ў 63 гады.

Не мной заўважана: у пітушчага бацькі дочкі рэдка бываюць шчаслівымі. Па прынцыпе магніта, да іх прыцягваюцца мужчыны з чарвівінкай альбо схільнасцю да агрэсіі. Замуж я не выйшла, а выскачыла — па першым вялікім каханні. Майму абранніку дасталіся не лепшыя гены: у родзе чаго толькі ні было!

У адрозненне ад цесця, муж не толькі змоладу «ўжываў», ён распускаў рукі. На словах патлумачыць не ўмеў, адзіным аргументам яго правоты была фізічная сіла. Спіртное зносіла яму дах. Падчас у мяне самой такое непрыманне закіпала ў душы, такі пратэст, што я кідалася на яго, як котка. Але хіба такога здаравяка паб'еш? Хіба падрапаеш, калі пашанцуе.

Далей — болей. Я ўсё часцей плакала, а ў яго расло пачуццё беспакаранасці. Ніхто з больш вопытных не параіў мне напісаць заяву ў міліцыю (звярнуся, як паразумнею). Нават думкі не ўзнікала, што нехта можа абараніць. У бацькоў падтрымкі я знайсці не магла. Маці, як заўсёды, усё бачыла і разумела, але трымала думкі і пачуцці пры сабе. У яе гаворках гучала перасцярога: маўляў, на развядзёнку кожны пальцам пакажа, адзінокую куры заграбуць…

А няхай бы і заграблі, чым дзясяткі гадоў жыць з ворагам! Ад былога кахання засталіся толькі прыкрасць, сорам ды запозненае шкадаванне.

Інсайт сышоў на мяне толькі напярэдадні пенсіі: ва ўзросце, калі ўжо рэдка расстаюцца. У парыве адчаю, усвядоміўшы поўны крах сваіх намаганняў кантраляваць алкаголіка, я сказала сабе: «Хопіць. Я зрабіла ўсё, што магла». На мове псіхолагаў гэта азначае: адпусціла сітуацыю. Так спрацаваў інстынкт самазахавання. На той момант я ўжо ўся была ў хранічных хваробах і з прыкметамі неўрастэніі.

У галаве закруцілася новае слова: «развод». Толькі развод! Каб гэты здраднік і хлус не лічыўся маім сужэнцам нават па пашпарце! Рашыцца дапамог, як ні дзіўна, астролаг. Ён зірнуў на планшэт і вынес вердыкт: у вас разводны гараскоп. Ну, калі ўжо на родзе напісана!.. Мабыць, мне трапіўся дужа разумны чалавек, бо дадаў на развітанне: адзваніце мне праз паўгода.

І што вы думаеце? Мой незадачлівы «спадарожнік жыцця» роўна паўгода бегаў ад судоў. Суддзя зразумела, што не зловіць, і афарміла развод у яго адсутнасць. З дочкамі свайго рашэння я не абмяркоўвала. Дасюль пераканaная: нічога больш правільнага ў сваім жыцці я не здзяйсняла. Няма такой подласці, на якую не пойдзе атручаны этылавым спіртам чалавек. Трымаць такога за мужа — злачынства супраць асобы. Сябе любіць таксама неабходна.

Я збегла. Кашмар маёй маладосці ператвараецца ў аддаленую чорную кропку. Аднак гэта не канец, а пачатак працяглага працэсу пазбаўлення ад унутранага рабства і вяртання самапавагі. Ажно не верыцца цяпер, што можна было столькі выліць слёз праз грубага і чэрствага тыпа, які ў сям'і не вывучыў двух словаў: «дзякуй» і «даруй».

Некалькі разоў — скажу дзеля справядлівасці — ён спрабаваў завязаць. Апагеем «развязкі» стала аварыя ў нецвярозым стане, падчас якой ён пабіў нашу машыну.

Дзякуючы сумнаму досведу, я стала амаль экспертам па тэме алкагалізму і яго наступстваў. Мяне хвалюе ўсё, што звязана з продажам спіртных вырабаў (вырабаў, а не напояў!) і са статыстыкай алкагалізацыі насельніцтва. Вучоныя даследавалі ўсе тонкасці гэтай хваробы. Чуючы чарговую сентэнцыю медыкаў, што алкаголь шкодны для здароўя, мне робіцца смешна і вусцішна адначасова. Пры чым тут стан печані, калі на кон ставіцца твая індывідуальнасць, твая Божая іскра — душа, твой мозг — вяршыня эвалюцыі?! А чаго вартая істота без мазгоў?

Мабыць, хтосьці зацікаўлены ў тым, каб нашы мужчыны вечна былі затарможанымі. З іх дапамогай напаўняе свой дзіравы бюджэт дзяржава, на іх нездаровай хэнцы зарабляе мільёны ценявы бізнес. Чаму, разважаю, адны суткі пратрымаўся новаўведзены закон пра абмежаванне начнога продажу? Верагодна, сярод блізкіх або набліжаных "да цела" ёсць зацікаўленыя людзі: маюць або долю ў вытворчасці або працэнт за дазвол і прэферэнцыі. Нідзе так яскрава не праявілася карумпаванасць вярхоў, як у гэтым — як бы нязначным — эпізодзе! Інтарэсы вузкай групы пераважылі ўсё: траўматызм на будоўлях, дробныя і буйныя злачынствы «па п'янцы», шматлікія ДТЗ па віне нецвярозых кіроўцаў і, канечне, тэрор у сем'ях з калецтвамі і забойствамі.

Падхалімы з дзяржканалаў, якія гатовыя лізаць «і пяткі, і ля пупа складкі», сабралі водгукі на вуліцы: што жыхары горада думаюць наконт адмены. Усе, як адзін, нават пенсіянеркі, былі «за». Можна падумаць, што іх не прыніжалі і не таўклі!

Што ж атрымліваецца? Добрая цётка-дзяржава адной рукой налівае ў шклянку, а другой налічвае неверагодныя штрафы і малюе вокны ў клетачку. Не хапае трэцяй рукі: ухапіцца за галаву. Бо, згодна са статыстыкай, 83% крымінальных злачынстваў адбываецца ў стане алкагольнага ап'янення. За 2017 год затрымана звыш 23 000 п'яных кіроўцаў, здзейснена 343 ДТЗ з іх удзелам. Колькі загінула і пакалечана, паглядзіце ў інтэрнэце самі.



**Устаноўчы сход БПСМ.** Крыніца: «Знамя юности», май 1997 года

# Хунвэйбіны Лукашэнкі: Ад «Прямого действия» да БРСМ

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Аляксандр Лукашэнка задаўся аднойчы пытаннем: ці мае ён падтрымку сярод моладзі? Студэнцкія пратэстныя акцыі супраць датацый на хлеб і малако ўвосень 1994 года, мітынг студэнтаў гістфака БДУ супраць рэферэндуму ў маі 1995 года наводзілі на думкі.**

Самай непрыемнай стала «мінская вясна» 1996 года, калі тысячы маладых людзей выйшлі на вуліцы сталіцы. Сам Лукашэнка потым публічна прызнаваўся, што «с болью» глядзеў адпаведныя кадры кінахронікі. Мабыць тады беларускі кіраўнік канчаткова схіліўся да вырашэння моладзевага пытання.

Тым больш, што для гэтага мелася добрая нагода: запланаваны рэферэндум па зацвярджэнні новай рэдакцыі Канстытуцыі, якая давала кіраўніку Беларусі практычна неабмежаваныя паўнамоцтвы.

З лета 1996 года Лукашэнка паступова пачаў працу з моладдзю. 17 чэрвеня 1996 года ён падпісаў указ №215, які тычыўся рэалізацыі першапачатковых захадаў моладзевай палітыкі, а ў сярэдзіне ліпеня сустрэўся са старшынёй Дзяржкамітэта па справах моладзі Аляксандрам Рыгоравічам Пазняком. Падчас сустрэчы Лукашэнка прызнаўся, што «не мыслит» свайго палітычнага лёсу без супрацоўніцтва з моладдзю. Ён таксама выказаў ідэю моладзевых арганізацый «под одной крышей».

У пачатку верасня 1996 года Лукашэнка сустрэўся са студэнцкім актывам БДУ і запэўніў, што на адукацыю будзе выдзяляцца столькі сродкаў, колькі патрэбна, але для гэтага яму неабходна падтрымка на рэферэндуме.

Каб перацягнуць моладзь на свой бок, Лукашэнка ўдала пачаў эксплуатаваць адно з самых вострых пытанняў — жыллёвае. 10 верасня 1996 года ён падпісаў указ №358 аб захадах па паляпшэнні жыллёвых умоў моладзі. Паводле гэтага нарматыўнага прававога акта, маладыя грамадзяне і сем'і, якія стаялі на ўліку па паляпшэнні жыллёвых умоў, мелі права на атрыманне бязвыплатнага крэдыту (льготная катэгорыя грамадзян) альбо звычайнага крэдыту з наступным пагашэннем яго на працягу сарака гадоў з выплатай 5% гадавых.

Палітычная падаплёка гэтага ўказа была настолькі відавочнай, што гэта не мела патрэбы ні ў якіх каментарах. Тым больш, што з мэтай заваёвы яшчэ большага даверу моладзі праз месяц ва ўказ былі ўнесены змены. Яны тычыліся павышэння ўзроставага цэнзу маладых людзей і сем'яў. Так, маладымі людзьмі лічыліся грамадзяне да 30 гадоў уключна, а маладымі сем'ямі — тыя, у якіх мужу альбо жонцы было да 30 гадоў уключна. Нормы зменненага ўказа супярэчылі закону ад 24 красавіка 1992 года, які ўсталяваў узроставы цэнз у 25 гадоў.

Напярэдадні рэферэндуму ўлады 20–21 верасня 1996 года арганізавалі так званы Форум моладзі, на якім выступіў кіраўнік Беларусі. Лукашэнка быў шчодры на абяцанні, запэўніваў, што дзяржава забяспечыць выпускнікам гарантаванае працоўнае месца. Лукашэнка таксама праінфармаваў, што па яго ўласнай ініцыятыве ў новай рэдакцыі Канстытуцыі істотна пашыраны артыкул 32, у якім прапісана, што моладзь мае права на сваё духоўнае, маральнае і фізічнае развіццё.

Па выніках працы Форуму моладзі ў цэнтральных дзяржаўных сродках масавай інфармацыі быў апублікаваны зварот яго ўдзельнікаў пад назвай «Моладзь Беларусі — за стабільнасць і прагрэс». Зварот быў вытрыманы ў адкрыта праўладным рэчышчы, у ім гаварылася аб недапушчальнасці «выкарыстання моладзі ў ідэалагічных баталіях, палітычным і міжнацыянальным супрацьстаянні» і падтрымцы імкнення «кіраўніцтва рэспублікі знайсці шляхі выхаду» з крызіснай сітуацыі.

Ужо ў кастрычніку 1996 года міністэрства юстыцыі зарэгістравала моладзевую арганізацыю «Прямое действие», стварэнне якой актыўна лабіяваў адыёзны панславісцкі Славянскі Сабор «Белая Русь». Назва новаспечанай арганізацыі была запазычана ад левардыкальнай французскай групоўкі, што дзейнічала ў разгар «левага руху» ў 1970-я гады і не грэбавала тэрарыстычнымі метадамі. Праўда, у статуце «Прямого действия» не было і намёку на што-небудзь падобнае. Наадварот, гаворка ішла аб жаданні арганізацыі «садзейнічаць пабудове на прынцыпах дэмакратыі, патрыятызму і інтэрнацыяналізму свабоднага, сацыяльна справядлівага грамадства».

Неўзабаве на старонках газеты «Знамя юности» было апублікавана інтэрв'ю з лідарамі «Прямого действия» — студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Усеваладам Янчэўскім і Уладзіславам Фральцовым. Абодва паспяшаліся выказаць сваю адданасць кіраўніку Беларусі. Так, Янчэўскі, відавочна маючы на ўвазе заўзятага суперніка Лукашэнкі, тагачаснага старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, крыўдзіўся на тое, што некаторыя «престарелые политики расписываются за молодёжь в её оппозиционности». Янчэўскі шчыра прызнаўся, што зрабіў кумірам Лукашэнку пасля таго, як той 14 снежня 1993 года агучыў у Вярхоўным Савеце свой «антыкарупцыйны» даклад.

Фральцоў паказваў на тое, што Лукашэнка з'яўляецца «самым молодым президентом в Европе». А гэта, лічыў Фральцоў, істотна палегчыць паразуменне кіраўніка дзяржавы і маладых людзей.

Ужо 30 кастрычніка 1996 года «Прямое действие» ажыццявіла сваю першую акцыю — пікетаванне (каля 200 чалавек) будынку Вярхоўнага Савета 13 склікання. На мітынгу Янчэўскі зноў паўтарыў сваю пазіцыю: моладзі нібыта абрыдла, што састарэлыя палітыканы выкарыстоўваюць яе ў сваіх мэтах.

Стварэнне «Прямого действия» было негатыўна расцэнена апазіцыяй. У звароце III з'езда Аб'яднанай грамадзянскай партыі да моладзі Рэспублікі Беларусь гаварылася, што гэтая арганізацыя — фашысцкага кшталту, якая будзе абапірацца на гвалт.

Напачатку 1997 года «Прямое действие» налічвала ўжо звыш 400 чалавек. Туды запісваліся цэлыя сем'і. Захаваліся, напрыклад, уліковыя карткі Валянціна Кучуры (1960 года нараджэння) і яго сына Аляксандра (1979 года нараджэння).

Арганізацыя цалкам падтрымлівалася дзяржавай. Напрыклад, у сваім лісце на адрас Упраўлення справамі прэзідэнта ад 24 сакавіка 1997 года намеснік Янчэўскага Юрый Салаўёў хадайнічаў аб выдзяленні ягонай арганізацыі партатыўнага кампутара, ручнога сканера, капіравальнага апарата, двух тэлефаксаў і 20 пейджараў для актывістаў Мінска і Мінскай вобласці. Таксама, «учитывая напряженный график работы с постоянными перемещениями и широкий круг решаемых задач», Салаўёў прасіў аб выдзяленні рэдкай і каштоўнай па тых часах тэхнікі — пяці мабільных тэлефонаў.

8 красавіка 1997 года Янчэўскі падпісаў загад №8-001 аб утварэнні ў складзе «Прямого действия» аддзела адукацыі, спорту і турызму. На наступны дзень асобным указам Янчэўскага ў складзе «Прямого действия» быў створаны абаронна-спартыўны клуб з дзіўнай назвай «Русский белый медведь». На чале клуба стаў Іларыён Банько.

## БПСМ

Пасля перамогі на рэферэндуме 24 лістапада 1996 года ў Лукашэнкі з'явіліся іншыя планы на моладзь. Лукашэнка загарэўся ідэяй стварэння ўплывовай моладзевай арганізацыі з вялікай колькасцю чальцоў. Такое рашэнне было прынцыпова прынята на нарадзе 31 снежня 1996 года з удзелам вядомых Уладзіміра Замяталіна і Сяргея Посахава.

28 лютага 1997 года Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі моладзевых арганізацый і прапанаваў ім «продумать» арганізацыйную і асноўную ідэю аб'яднання. На думку Лукашэнкі, «костяком» новай арганізацыі павінны былі стаць Беларускі Саюз Моладзі і «Прямое действие». Да іх планавалася далучыць Беларускі нацыянальны камітэт моладзевых арганізацый, Беларускую асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА, Усебеларускі саюз скаўтаў, Лігу добраахвотнай працы моладзі і г.д.

Ідэйную глебу новай арганізацыі павінны былі скласці прадстаўнікі «конструктивно настроенной» моладзі. Новая арганізацыя, заклікаў Лукашэнка, павінна была не толькі ўшчыльную заняцца рашэннем моладзевых праблем самага рознага ўзроўню, але і прадставіць «конструктивную» і прывабную альтэрнатыву разбуральным інфармацыйным плыням з захаду і з усходу.

Лукашэнка паставіў задачу правесці ўстаноўчы з'езд новай арганізацыі не пазней красавіка-траўня 1997 года і распрацаваць да гэтага часу статут.

Беларускі саюз моладзі выказаў рэзкі пратэст супраць свайго ўключэння ў склад новай моладзевай структуры. На спецыяльнай прэс-канферэнцыі ў сакавіку 1997 года яго кіраўнік Даронін заявіў, што кіраўніцтва БСМ адмовілася ўвайсці ў аргкамітэт па стварэнні БПСМ. Даронін матываваў гэта тым, што Беларускі саюз моладзі — дастаткова магутная арганізацыя з колькасцю каля 84 тысяч чалавек. Даронін назваў БСМ «стабілізатарам моладзевага руху». Калі, паводле яго словаў, адміністрацыя прэзідэнта разбурыць гэты «стабілізатар», то атрымае новыя праблемы.

У адказ у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі пачалася дыскрэдытацыя БСМ. У адным з нумароў «Вечернего Минска» ў артыкуле «БСМ на сене КВН» сцвярджалася, што Беларускі саюз моладзі нібыта адмовіўся спансіраваць (нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць) удзел беларускай каманды ў першай лізе КВЗ.

Неўзабаве Даронін быў вызвалены са сваёй пасады, а на ягонае месца прыйшоў Вайцянкоў. Новы кіраўнік БСМ прапанаваў Лукашэнку адкласці ўстаноўчы з'езд новай арганізацыі да восені

і стварыць спецыяльную камісію для выпрацоўкі кампраміснага рашэння.

Цвёрдая пазіцыі БСМ дала сваё плён, і Лукашэнка вырашыў пакуль не чапаць яго. Аднак устаноўчы сход новай арганізацыі пад назвай Беларускі патрыятычны саюз моладзі адбыўся 20–21 траўня 1997 года з удзелам 980 чальцоў, а таксама самога Лукашэнкі, прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, старшыні Савета Рэспублікі Паўла Шыпука і старшыні Палаты прадстаўнікоў Анатоля Малафеева.

З'езд аднагалосна абраў першым сакратаром БПСМ Усевалада Янчэўскага. Таксама было зацверджана Бюро ЦК БПСМ у складзе Янчэўскага, студэнта БДУ Юрыя Салаўёва, прэзідэнта рэспубліканскай асацыяцыі міжнародных моладзевых абменаў і турызму Міхаіла Орды, спецыяліста аддзела па выхаваўчай працы з моладдзю Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Сяргея Дарашэвіча і загадчыка аддзела па справах моладзі Слуцкага гарвыканкама Уладзіміра Шпакоўскага. Цікава, што прозвішча Фральцова нідзе не фігуравала.

У сваім выступе Лукашэнка так наказваў сваім «хунвэйбінам»: «Воспитать гражданина-патриота, одухотворённого идеалами добра и социальной справедливости, способного созидать и творить во имя Отечества. Полем идеологической борьбы сегодня стала каждая школа, каждый ВУЗ, трудовой коллектив. Не редки случаи, когда отдельные преподаватели вузов сами с головой уходят в опасное политиканство и тащат в этот омут учащихся и студентов».

Прэзідэнцкая адміністрацыя сканцэнтравала свае намаганні на беспрэцэдэнтнай падтрымцы БПСМ. Згодна з указам Лукашэнкі ад 10 ліпеня 1997 года, прадстаўнікі БПСМ маглі ўключацца ў склад калегій Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства спорту і турызму, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Дзяржаўнага камітэта па друку, Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, праўленняў спецыяльных прэзідэнцкіх фондаў, мясцовых органаў улады, а таксама грамадскіх кантрольных камісій па праверцы здачы ўступных экзаменаў. Акрамя таго, БПСМ вылучалася з рэзервовага фонду прэзідэнта 100 мільярдаў рублёў для рэалізацыі праграмы моладзевага жыллёвага будаўніцтва і радыёчастата 101,2 у мэтах стварэння моладзевай радыёстанцыі.

## Нахабства — другое шчасце

Самі бэпэсэмаўцы маху не далі. Пра гэта сведчыць аналітычная запіска, датаваная 10 сакавіка 1998 года і складзеная інфармацыйна-аналітычным цэнтрам Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. У ёй ішла гаворка пра тое, што чальцы БПСМ у сценах ВНУ паводзяць сябе як гаспадары. У прыватнасці, ультыматыўна патрабуюць выдзялення асобных памяшканняў з тэлефонам, дабіваюцца для некаторых студэнтаў графікаў вольнага наведвання заняткаў, імкнуцца ўбіць клін паміж выкладчыкамі і студэнтамі, ствараюць ажыятаж вакол заяваў аб матэрыяльнай дапамозе. Асаблівую небяспеку, гаварылася ў запісцы, новыя камсамольцы неслі прафсаюзам у навучальных установах.

Адчуваючы падтрымку «зверху» (Лукашэнка публічна заявіў, што гатовы перадаць моладзевай арганізацыі частку прафсаюзных функцый), паплечнікі Янчэўскага агітавалі прафсаюзы ВНУ і іншых навучальных устаноў цалкам уступаць у БПСМ. Натуральна, гэта выклікала адпаведную рэакцыю ФПБ. Яе кіраўнік Уладзімір Ганчарык афіцыйна звярнуўся да Лукашэнкі і заявіў аб недапушчальнасці перадачы такіх функцый БПСМ.

На сваю дзейнасць БПСМ імкнуўся атрымаць як мага больш грошай. Калі на другое паўгоддзе 1997 года каштарыс расходаў склаў 5,7 мільярда рублёў, то на 1998 год запыталі ажно 110 мільярдаў са штатнай колькасцю 1131 чалавек. Гэта выклікала рэзкі пратэст Міністэрства фінансаў: яно заявіла, што запрашаная сума супярэчыць зместу дакладной запіскі №25/28 ад 5 чэрвеня 1997 года, падпісанай кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта Мясніковічам і кіраўніком справамі прэзідэнта Ціцянковым. 10 лютага 1998 года Мінфін паведаміў ЦК БПСМ, што выдзяляе 76 мільярдаў рублёў. Але ў наступным 1999 годзе БПСМ атрымаў ужо 186 мільярдаў рублёў.



**Уладзіслаў Фральцоў (злева) і Усевалад Янчэўскі.** Крыніца: «Знамя юности», кастрычнік 1996 года

Не забывала пра сябе і вузкае кіраўніцтва — супрацоўнікі ЦК БПСМ. Акрамя высокіх прэмій (ад 120 да 150% ад службовага акладу), яны атрымлівалі надбаўкі — за «особый характер работы». Першымі ў такіх спісах нязменна фігуравала святая тройца: Янчэўскі, Салаўёў, Орда. Напрыклад, паводле загада Янчэўскага №111 ад 31 ліпеня 2000 года, яны атрымалі надбаўку ў памеры 25%.

Беларускія «хунвэйбіны» паклалі вока на шматлікія прывабныя будынкі. Так, 31 снежня 1997 года сакратар ЦК па сацыяльна-эканамічных пытаннях Салаўёў у адмысловым лісце Пазняку прасіў пасадзейнічаць у перадачы БПСМ матэля-кемпінга «Мінскі», кінатэатра «Кіеў», танцзала «Вільнюс», а таксама базы адпачынку «Верасы» пад Віцебскам. Аднак БПСМ атрымаў толькі базу адпачынку. Моцнае сталічнае бюракратычнае лобі не аддала каштоўныя будынкі.

## Грошы налева-направа

Калі БПСМ браўся арганізоўваць нейкае мерапрыемства, то імкнуўся выцягнуць з бюджэту як мага больш грошай. Пра гэта сведчаць маўклівыя лічбы. Напрыклад, арганізацыя абласнога хакейнага спаборніцтва «Залатая шайба» на базе Гродзенскага лядовага палаца 9–12 сакавіка 1999 года абышлася дзяржаве ў 83 мільёнаў 830 тысяч рублёў. У сакавіку таго ж года ў лісце да Пазняка Янчэўскі прасіў узгадніць каштарыс расходаў «по финансированию чествования победителей соревнования среди молодых животноводов» у 1998 годзе ў суме 275 мільёнаў рублёў. Мэта акцыі, адзначаў Янчэўскі, наступная: «Привлечение молодёжи к реализации аграрной политики государства, увеличение производства продукции животноводства, повышение эффективности использования техники и оборудования, поощрение молодых работников сельского хозяйства и популяризация идей БПСМ среди сельской молодежи».

Шмат грошай ішло на «обучение актива» БПСМ. Так, напрыклад, на вучобу начальнікаў планава-эканамічных аддзелаў, бухгалтараў абласных камітэтаў БПСМ на базе Акадэміі кіравання пры прэзідэнце з 16 па 26 сакавіка 1999 года было выдаткавана 280 мільёнаў рублёў.

Пры гэтым шмат грошай марнавалася на абсалютна бессэнсоўныя мерапрыемствы. Так, 16 кастрычніка 1997 года другі сакратар БПСМ Міхаіл Орда падпісаў загад аб фінансаванні форуму «Молодые политики Беларуси и России — за объединение» (каштарыс не захаваўся). Гомельскі абласны камітэт, паводле загада Янчэўскага ад 22 кастрычніка 1997 года, атрымаў 4 мільёны рублёў на арганізацыю гарадскога вечара «Осенний бал». 28 кастрычніка 1997 года Янчэўскі падпісаў загад аб выдзяленні Брэсцкаму камітэту 5 мільёнаў 800 тысяч рублёў на правядзенне свята працоўнай моладзі «Мы и наши соседи». Аднак самая вялікая сума (69 мільёнаў 445 тысяч рублёў) пайшла на "святкаванне" гадавіны рэферэндуму–96.

## «Стыль»-прапаганда

Беларускія «хунвэйбіны» імкнуліся пашырыць свой уплыў з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі. Неўзабаве БПСМ стаў адным з сузаснавальнікаў «Знамени юности» і стварыў уласнае радыё пад назвай «Стыль». У снежні 1998 года Янчэўскі даў радыё ажно 781 мільён рублёў, а ў жніўні 2000 года пісаў кіраўніку справамі прэзідэнта Уладзіміру Ганчарэнку, каб той разгледзеў пытанне аб пашырэнні плошчаў радыёстанцыі.

У студзені 2001 года «Стыль» страсянуў скандал. Яго дырэктарка ўзяла хабар памерам 1700 долараў ЗША за істотную зніжку аднаму з бізнесоўцаў на рэкламу. У ходзе расследавання выявілася, што на радыёстанцыі парушалася заканадаўства. 11 чэрвеня 2001 года старшы следчы пракуратуры Цэнтральнага раёна Мінска Каледа дакладваў, што з пачатку года рэальны аб'ём рэкламы істотна перавышаў той, які быў запланаваны дамовамі, — 4 мільёны 684 тысячы рублёў. Гэта стала магчымым таму, гаварыў Каледа, што з боку кіраўніцтва (першым сакратаром ужо быў Салаўёў, а Янчэўскі пайшоў у дэпутаты) адсутнічаў кантроль над працай «Стылю».

## Ідэалогія бізнесу не перашкода

Атрымаўшы дзяржаўныя прэферэнцыі, БПСМ кінуўся ў бізнес. Афіцыйна гэта падавалася як пераход на самаакупнасць. Пры саюзе, як грыбы пасля дажджу, пачалі расці розныя прадпрыемствы: «Торговый дом — молодёжный мир», навукова-вытворчае прадпрыемства «Эксперт» (Брэст), Рэспубліканскі цэнтр экалагічнай асветы моладзі (Нарач).

**БПСМ вылучалася 100 мільярдаў рублёў для рэалізацыі праграмы моладзевага жыллёвага будаўніцтва і радыёчастата 101,2 у мэтах стварэння моладзевай радыёстанцыі**

20 кастрычніка 1997 года пачалася буйная фінансавая аперацыя. У гэты дзень Янчэўскі падпісаў загад №60: «В связи с производственной необходимостью и в целях эффективного использования бюджетных средств объявить тендер на закупку оргтехники и сопутствующих ей товаров». На загадзе захавалася ўласная рэзалюцыя Янчэўскага: «Тов. Соловьёву. Под личный контроль. Я.»

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся асабістыя справы тых, хто працаваў на высокіх пасадах у БПСМ. Сярод іх — скандальна вядомы рэжысёр Юрый Азаронак. Цікавая гэта фігура — Азаронак. Ураджэнец Лепельшчыны, ён у 34 гады паступіў у Акадэмію мастацтваў, скончыў яе на «выдатна» ў 1994-м, а ў наступным годзе стрэліў знакамітым фільмам «Дзеці ілжы» супраць БНФ. Да 1989 года Азаронак працаваў выключна ў вытворчасці. У асабістай справе фігуруюць такія пасады: «слесарь-наладчик», «заготовщик химических фабрикатов», «мастер».

25 лістапада 1998 года Азаронак узначаліў аддзел рэкламы і інфармацыі БПСМ, аднак ужо 5 лютага 1999 года сышоў па ўласным жаданні.

А, напрыклад, дзейны намеснік міністра інфармацыі Ігар Бузоўскі з 1993 па 1998 гады працаваў на выхаваўчых пасадах, а са жніўня 1998 года — другім сакратаром Навагрудскага раённага камітэта БПСМ.

24 лістапада 1999 года Бузоўскі напісаў заяву пра свой перавод на пасаду дырэктара моладзевага цэнтра «Юность». Яго кандыдатура прайшла шмат узгадненняў: свае візы паставілі сакратары ЦК па ідэалогіі, па сацыяльна-эканамічных пытаннях, сакратар па працы з рабочай і сельскай моладдзю, сакратар ЦК па працы з маладымі навучэнцамі, начальнік арганізацыйнага ўпраўлення, начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы.

Неўзабаве пасля другіх прэзідэнцкіх выбараў Салаўёў паведаміў Бузоўскаму, што з 3 снежня 2001 года пасада дырэктара «Юности» скарачаецца. Паводле загада Салаўёва ад 30 лістапада 2001 года, Бузоўскі атрымаў выходную дапамогу ў памеры сярэдняга трохмесячнага заробку, кампенсацыю за нявыкарыстаны адпачынак (45 дзён). Аднак, як паказаў час, Ігар Бузоўскі, у адрозненні ад Салаўёва, не згубіўся.

## Чыё кушаю, таго і слухаю

Канешне, ніхто не збіраўся задарма карміць маладую паству. Яна павінна была адпрацаваць. Першы такі іспыт надышоў у сувязі з другімі прэзідэнцкімі выбарамі ў 2001 годзе. 8 чэрвеня 2001 года БПСМ публічна заявіў аб падтрымцы Лукашэнкі. «Хунвэйбіны» распрацавалі, на іх погляд, амбіцыйны план з назвай «За бацьку!». У плане было наступнае: пакватэрная агітацыя (20 000 чалавек), агітацыя ў навучальных і працоўных калектывах. З 1 па 9 верасня БПСМ планаваў правесці акцыю сярод школьнікаў «Поговори с родителями». У кожным раёне ствараліся «летучие отряды» БПСМ з мэтай «срыва агитмероприятий других кандидатов и зачистки оппозиционной агитпродукции».

Было распрацавана некалькі варыянтаў плакатаў у падтрымку Лукашэнкі:

*Присмотрись-ка, молодежь,*
*Лукашенко всем хорош.*
*И на должность президента*
*Нету лучше претендента.*

Альбо:

*Хутка прыйдзе наша свята,*
*Хутка прыйдзе слаўны дзень.*
*За Аляксандра Лукашэнку*
*Апушчу свой бюлетэнь.*

Сама назва БПСМ зараз расшыфроўвалася наступным чынам: «Батьку поддержат самые молодые».

Па стане на 13 ліпеня 2001 года БПСМ сабраў 7184 подпісы за Лукашэнку. У тым жа месяцы Салаўёў паведаміў кіраўніку прэзідэнцкай адміністрацыі Мясніковічу і кіраўніку КДБ Ерыну, што БПСМ выставіць 26 тысяч назіральнікаў.

3 жніўня 2001 года БПСМ зладзіў семінар «Организация работы наблюдателей на участках для голосования» з удзелам першага намесніка Мясніковіча Уладзіміра Замяталіна. Аднак пасля выбараў Лукашэнка адразу прыбраў Замяталіна з палітычнай арэны. А праз год знік і сам БПСМ, які ў верасні 2002 года зліўся з БСМ.

Перад новым БРСМ стаялі новыя задачы па ўмацаванні рэжыму Аляксандра Лукашэнкі і ідэалагічнай апрацоўцы моладзі. Што атрымалася за гэтыя гады, чым сёння ёсць БРСМ — гэта ўжо тэма для іншага артыкулу.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ШВЕЦЫЯ. Модна быць антыфеміністкай

Кансерватыўная хваля ўсё мацней накрывае Еўропу, у тым ліку і Швецыю. Яшчэ нядаўна гэтая скандынаўская краіна знаходзілася ў авангардзе прагрэсіўных працэсаў. Хіба толькі ў Швецыі партыя феміністак магла набіраць 4 працэнты на парламенцкіх выбарах. Аднак зараз назіраюцца зваротныя з'явы. Іх сведчаннем стаў незвычайны праект 24-гадовай журналісткі Грэты Турфіел. Яна заснавала выданне, якое рэкламуе стыль класічных хатніх гаспадынь. Пры гэтым рэкламуючы стыль жанчын, якія цалкам прысвяцілі сябе сям'і, мужу і дзецям, яна актыўна выкарыстоўвае моладзевы слэнг, даказваючы, што быць феміністкай — «не крута». З улікам папулярнасці яе праекту можна казаць пра тое, што яна сапраўды транслюе настроі значнай часткі моладзі. У тым ліку многія згаджаюцца з Турфіел у тым, што роўнасць у правах з мужчынамі прымушае жанчыну шмат працаваць, пазбаўляе вольнага часу, а гэта скарачае, адпаведна, і час на барацьбу за свае правы. Праўда, міф пра хатнюю гаспадыню ўтапічны ва ўмовах цяперашняй мадэлі капіталізму. Таму антыфеміністкі наўрад ці стануць хатнімі гаспадынямі, а вось электарат правых партый яны дакладна папоўняць.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Лацінізацыя гербу

З 1 лістапада ў Казахстане набылі моц змены ў закон «Аб дзяржаўных сімвалах», паводле якіх надпіс з назвай рэспублікі на гербе павінен быць выкананы на лацінцы. Нававядзенне звязана з пераходам казахскай мовы на лацінскую графіку. Назарбаеў падпісаў указ аб пераходзе на лацінку яшчэ ў лютым 2018-га. Працэс пройдзе ў тры этапы і павінен завяршыцца да 2025 года. Новы дызайн герба казахі сустрэлі па-рознаму. Адны бачаць тут пазітыў, бо «лацінізацыя пачала рушыць». Іншыя баяцца, што ўслед за гербам давядзецца мяняць усе пячаткі з яго выявай, бланкі, шыльды на афіцыйных будынках і гэтак далей. На гэта непазбежна спатрэбіцца вялікая колькасць бюджэтных грошай. Тут як ўспомнілі, як у 2001 годзе ў Назарбаева патрабавалі, каб усе дзяржустановы да 2020 года перайшлі 100% на дзяржаўную мову. Праграма таксама пачалася з замены пячатак і шыльдаў. У выніку грошы асвоілі, а эфект апынуўся нулявым. Але галоўнай прычынай для скепсісу застаецца сталы ўзрост Назарбаева, які асабіста ініцыяваў рэформу. У выпадку яго смерці дакладна пачнецца барацьба за ўладу, і ўсім, відавочна, будзе не да лацінкі.

**Паводле казахскай прэсы**

### АРГЕНЦІНА. Новая бітва за Фалкленды

Буэнас-Айрэс скарыстаецца наступствамі працэсу Brexit (выхаду Вялікабрытаніі з Еўрасаюза), каб вярнуць у свой склад спрэчныя Фальклендскія (Мальвінскія) астравы. Пра гэта заявіў аргенцінскі МЗС. Стаўка ў аргенцінскай дыпламатыі робіцца на тое, што, будучы ў Еўрасаюзе, Лондан мог карыстацца падтрымкай усяго аб'яднання. Асаблівы артыкул Лісабонскай дамовы 2009-га патрабуе ад усіх чальцоў ЕС падтрымліваць тэрытарыяльнае адзінства кожнага ўдзельніка арганізацыі. Пакінуўшы Еўрасаюз, Вялікабрытанія аўтаматычна губляе адназначную падтрымку ў Еўропе. Больш за тое, Хорхе Форы, дырэктар аргенцінскага МЗС, спадзяецца, што Італія і Іспанія падтрымаюць аргенцінскія тэрытарыяльныя прэтэнзіі. Па яго словах, на снежаньскім саміце «Вялікай дваццаткі» аргенцінскі прэзідэнт абмяркуе перспектывы сітуацыі вакол спрэчнага архіпелага з англійскім прэм'ерам.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Непрыемнасці для аматараў марыхуаны

Кіруючая ў Грузіі партыя «Грузінская мара» 2 лістапада адмовілася ад ідэі легалізацыі марыхуаны. Урад паведаміў, што адклікае адпаведны законапраект, такім чынам пахаваўшы мары ўсіх аматараў гэтай справы (прычым, не толькі ў Грузіі). Шмат хто ў СНД лічыў, што Грузія стане прыкладам для іншых краін, але ў выніку перамагла палітычная кан'юнктура. Няма сумневаў, што прычынай адмовы ад легалізацыі стаў поспех апазіцыйнай партыі «Нацыянальны рух Грузіі». «Нацыяналы», нефармальным лідарам якіх з'яўляецца Міхаіл Саакашвілі, правялі ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў свайго кандыдата. Пры гэтым фішкай іх кампаніі была менавіта барацьба супраць «травы». Зараз «Грузінская мара» спрабуе выправіць сітуацыю. Прэм'ер і міністр МУС асабіста апавясцілі патрыярха (менавіта праваслаўная царква выступіла супраць ідэі легалізацыі) пра тое, што ўлада перагледзела сваю пазіцыю. Апазіцыя ў адказ сабрала брыфінг і паведаміла, што ў «Грузінскай мары» хітрyюць. Па словах «нацыяналаў», алігархі, якія стаяць за «Грузінскай марай», у выпадку перамогі на выбарах абавязкова вернуць законапраект у парламент. Пакуль большасць грузінскіх назіральнікаў не бяруцца прадказаць шанцы кандыдатаў. Другі тур выбараў прэзідэнта Грузіі павінен адбыцца не пазней за 2 снежня.

**Паводле грузінскай прэсы**

# Ні свята, ні народа, ні адзінства

Алег НОВІКАЎ

**На 13-ты год святкавання Дня адзінства ў Расіі нечакана зразумелі — 4 лістапада так і не стала па-сапраўднаму народным святам. Што з ім рабіць далей — незразумела.**




Фота www.bash.news

Каб канстатаваць гэтую непрыемную ісціну, дастаткова было ўпершыню за 13 гадоў пасля абвяшчэння ў 2005 годзе 4 лістапада Днём народнага адзінства адмяніць прысвечаныя яму федэральныя мерапрыемствы. Напэўна, у Крамлі спадзяваліся, што народ ужо адаптаваўся да гэтай даты, і зранку 4 лістапада пачне ўздымаць тосты за народнае апалчэнне, якое пад правадырствам Кузьмы Мініна і князя Дзмітрыя Пажарскага ў далёкім 1611 годзе вызваліла Маскву ад польскіх інтэрвентаў (афіцыйная падстава для ўрачыстасці).

На самай справе, 4 лістапада ніхто ў Расіі не святкуе падзеі 400-гадовай даўніны. Папросту ўдзельнічаюць у арганізаваных уладай мерапрыемствах забаўляльнага характару — фестывалях, конкурсах, канцэртах. Часам Дзень адзінства святкуюць вельмі экзатычна: напрыклад, у форме кулінарных конкурсаў або падрыхтоўкі вялікага амлету. Лепшай ілюстрацыяй апалітычнасці свята стала рашэнне нацыяналістаў адмовіцца ад так званага «Рускага маршу» — калісьці самай буйной вулічнай акцыі правых радыкалаў.

У дадатак з'явілася непрыемная для дзяржаўных прапагандыстаў сацыялогія. Паводле апытанняў, толькі 12% грамадзян РФ могуць успомніць, як называецца свята. Пры гэтым 42% расіян сумленна адказалі, што 4 лістапада за свята не лічаць у прынцыпе. Тыя ж сацыёлагі кажуць, што, па сутнасці, Дзень адзінства больш-менш падабаецца бюджэтнікам, аднак ніякага ідэйнага сэнсу яны ў гэты дзень не ўкладаюць. Папросту дадатковы выходны.

«Недарэчная дэманстрацыя фальшу і паўсюднай бутафорыі», «Пацёмкінская вёска пад назвай «кансалідацыя расійскага грамадства», — такія ацэнкі дае незалежная прэса святу 4 лістапада. Гучаць і непрыемныя для ўлады пытанні: нашто было ўвогуле прыдумляць штучнае свята, якое ў выніку вельмі дорага каштуе бюджэту?

Адказ на пытанне больш-менш зразумелы. Паколькі асноўнай апазіцыяй Пуціну напачатку нулявых выступалі камуністы, было вырашана прыбраць са святочнага календара 7 лістапада. А каб абывацель асабліва не выказваўся наконт таго, што ўлада забрала ў яго выходны, Дню Вялікага Кастрычніка сталі шукаць эрзац.

Задача была яўна не простая. У расійскім святочным календары на той момант ужо прысутнічаў Дзень сцяга, Дзень незалежнасці, Дзень канстытуцыі, Дзень перамогі... У выніку пагадзіліся на варыянце — святкаваць у лістападзе Дзень адзінства, якое прызначылі на 4 лістапада. Праўда, што такое «народнае адзінства» і чаму яно праявілася напоўніцу менавіта ў 1611-м годзе і менавіта ў гэты дзень, дасюль ніхто не можа растлумачыць.

Гаспадароў Крамля абсалютна не хвалявала, што 4 лістапада 1611 года не запомнілася сучаснікам асаблівымі глабальнымі падзеямі. На франтах Вялікай Смуты ў гэтую дату назіраўся абсалютны штыль. Відавочна, што аўтары ідэі проста вырашылі ўзмацніць яго сімвалізм і прыцягнулі за вушы да праваслаўнага свята. 4 лістапада — дзень абраза Казанскай Божай маці, якую князю Пажарскаму прывезлі з Казані.

У прынцыпе, невялікую ідэалагічную нагрузку ўрачыстасцяў можна ігнараваць. У Расіі тэму «народнага адзінства» як адзінства шматлікіх народаў, што жывуць на прасторах РФ.

А вось каментатары на расійскай секцыі «Радыё Свабода» не вераць у тое, што 4 лістапада атрымае новую версію. На іх думку, свята з патрыятычным складнікам у часы канфрантацыі з Захадам, наадварот, будзе яшчэ больш навязвацца грамадству. Фактычна, яму паспрабуюць надаць статус другога Дня перамогі. «Паўгода прайшло, крыху забыліся пра 9 мая, каб асвяжыць гэтыя адчуванні перамогі над знешнім ворагам уводзяць 4 лістапада, каб не раз на год, а раз на паўгода перамагалі ворага», — пішуць на сайце.

Напэўна, найбольш арыгінальна абараняе неабходнасць 4 лістапада вядомы каментатар Сяргей Дарэнка. Ён лічыць, што скасаванне свята справакуе ў народа траўму, паколькі ўсе расіяне паходзяць з вёскі і ментальна захавалі традыцыйную свядомасць. А сяляне менавіта ў лістападзе са старажытных часоў святкавалі свята забою

**«Недарэчная дэманстрацыя фальшу і паўсюднай бутафорыі», «Пацёмкінская вёска пад назвай «кансалідацыя расійскага грамадства», — такія ацэнкі дае незалежная прэса святу 4 лістапада. Гучаць і непрыемныя для ўлады пытанні: нашто было ўвогуле прыдумляць штучнае свята, якое ў выніку вельмі дорага каштуе бюджэту?**

шмат «чырвоных дзён календара», якія святкуюцца, хутчэй, як дадатковы выходны. Аднак ва ўмовах знешнепалітычнага абвастрэння ўсё выглядае інакш. Тое, што расіяне абыякавыя да такой «скрэпы», як галоўнае афіцыйнае свята краіны, падрывае міф пра кансенсус вакол Пуціна. Хутчэй, гэта сведчыць пра адчужэнне народа ад улады.

Магчыма таму цяпер святу 4 лістапада ў праўрадавых СМІ пачалі імкліва шукаць новую трактоўку. Афіцыёзныя журналісты пагаджаюцца, што яно — «штучнае свята», аднак, паводле іх словаў, матывуе задумацца пра Расію і «рускі свет». Ёсць думка разумець

жывёл. «Частка жывёл зімуе, а частка жывёл забіваюць, робяць каўбасы і праводзяць нешта накшталт карнавалу з паглынаннем мяса. 4 лістапада — недарэчна. Так. А тады што?» — тлумачыць Дарэнка сваю думку.

Ці будуць расіяне адзначаць Свята забою жывёл, або 4 лістапада чакае іншы лёс, пакуль не зразумела. Аднак значна больш не зразумела, як Пуцін і яго атачэнне, якія выраслі ў СССР і цудоўна ведалі фармальны характар большасці афіцыйных савецкіх святочных мерапрыемстваў, падтрымалі такую спрэчную ідэю, як адзначаць Дзень народнага адзінства?



Фота www.rg.ru

# Выбары прайшлі. Інтрыга засталася

Алег НОВІКАЎ

**У аўторак, 6 лістапада, у ЗША адбыліся так званыя прамежкавыя выбары. Але і рэспубліканцы, і дэмакраты разглядалі іх як двубой, у выніку якога «застацца павінен толькі адзін».**

У ЗША пераабіраліся 35 са 100 сенатараў, усе 435 чальцоў Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу, 39 губернатараў штатаў і тэрыторый, а таксама 6073 чальцы заканадаўчых сходаў штатаў, суддзі і чальцы саветаў школьных акругаў.

Фактычна, галасаванне нагадвала плебісцыт па пытанні стаўлення да курсу Дональда Трампа. Прычым плебісцыт з усімі прававымі наступствамі. Амаль усе кандыдаты ў дэмакраты абяцалі ў выпадку перамогі ўзняць пытанне пра датэрміновую адстаўку прэзідэнта.

У выніку дэмакраты сапраўды атрымалі большасць у Палаце прадстаўнікоў, хаця дакладных лічбаў пакуль яшчэ няма. Прычым нічога падобнага не было аж з 2010 года. Таму вынікі выбараў выклікалі ў прагрэсіўных колах сапраўдную эйфарыю. Тым больш, калі ў дадатак сталі вядомыя вынікі на ўчастках, дзе быў вырашаны лёс мінулых прэзідэнцкіх выбараў. Гаворка пра шэраг акругаў, дзе ў 2016 годзе нечакана перамог Трамп. Мясцовыя выбаршчыкі зноў пачалі сімпатызаваць дэмакратам.

Дадатковым фактарам для радасці дэмакратаў стала неасцярожная рэпліка Трампа, які першапачаткова назваў вынікі выбараў «фантастычным поспехам». Каментуючы тую фразу, вядучыя сатырычных праграм заклікаюць прэзідэнта прызнаць вынікі 6-га лістапада «фэйкавымі навінамі».

Аднак у агульнай суме вынікі выбараў можна назваць амбівалентнымі. Прайграўшы бітву за Палату прадстаўнікоў, «чырвоныя» (чырвоны — партыйны колер рэспубліканцаў) захавалі большасць у Сенаце. На раніцу 7-га лістапада яны забяспечылі сабе 51 месца са 100. Менавіта кантроль над Сенатам практычна страхуе Трампа ад імпічменту.

Акрамя таго, рэспубліканцы маюць някепскія вынікі на выбарах губернатараў, якія таксама праходзілі ў шэрагу штатаў. У тым ліку за рэспубліканцамі засталіся Флорыда, Джорджыя і Тэхас, дзе выбары былі вельмі прынцыповымі для абедзвюх партый. Дэмакраты могуць ганарыцца хіба што навінамі з Каларада, дзе іх кандыдат, які не хаваў гомасексуальных прыхільнасцяў, стаў губернатарам.

Таму эксперты асцярожныя з прагнозамі наконт абяцанняў дэмакратаў пра хуткі імпічмент. З іншага боку, маючы парламенцкую большасць, яны прыбіраюць да сябе ўсе профільныя камітэты. Таму Трампу давядзецца, перш чым рабіць некаторыя крокі, праводзіць з дэмакратамі адпаведныя кансультацыі.

Хаця, ведаючы стыль Дональда Трампа, можна чакаць не пошукаў кансенсусу, а наадварот новай серыі супрацьстаяння. Тым больш, што па сутнасці выбары нічога глабальна не вырашылі. Яны хутчэй у чарговы раз давялі слушнасць тэзісу пра тое, што краіна палітычна і ментальна моцна палярызаваная.

Тым не менш выбары сапраўды можна лічыць гістарычнымі. Упершыню ў Палаце прадстаўнікоў Кангрэса ЗША аказаліся дэпутаткі ад дэмакратаў з нізкім сацыяльным статусам, вельмі радыкальнымі поглядамі і стаўкай на грамадскі актыў.

Гэта перш за ўсё 29-гадовая Александрыя Акасія-Картэс (Alexandria Ocasio-Cortez) з Нью-Ёрка і 44-гадовая Аяна Прыслі (Ayanna Pressley). Акрамя таго фракцыя дэмакратаў папоўнілася першымі ў гісторыі амерыканскага парламентарызму дэпутаткамі, якая вызнаюць іслам. А таксама прадстаўніцай індзейцаў. Такога таксама яшчэ не было.Трапіў у Палату прадстаўнікоў — таксама ўпершыню ў гісторыі — і індзеец-дэпутат. Апошні, дарэчы, перад тым, як падацца ў вялікую палітыку, лячыўся ад алкагалізму.

Паколькі ўсе пералічаныя палітыкі паходзяць з сацыяльна слаба абароненых груп і адстойваюць іх правы, ад дэмакратаў чакаюць павароту налева. У прыватнасці, кажуць, што дэвізам партыі ў бліжэйшы час стане патрабаванне прагрэсіўнай медыцынскай рэформы. Тым больш, што выбары 6 лістапада называюць пачаткам адраджэння дэмакратаў, якім трэба вызначыцца з новым профілем.

**Упершыню ў Палаце прадстаўнікоў Кангрэса аказаліся дэпутаткі ад дэмакратаў з нізкім сацыяльным статусам, вельмі радыкальнымі поглядамі і стаўкай на грамадскі актыў**

Наўрад ці разбор палётаў 6 лістапада абмяжуецца пералічанымі вышэй тэмамі. Выбары ледзь завяршыліся, і, адпаведна, эксперты толькі пачалі аналізаваць розныя іх аспекты і выяўляць трэнды.

Нарэшце, агляд выбараў 6 лістапада будзе няпоўным, калі не згадаць, што ў аўторак таксама праходзілі мясцовыя рэферэндумы. Часам на такія рэферэндумы выносяцца вельмі экстравагантныя пытанні. Так адбылося і на гэты раз у Алабаме, дзе ўхвалілі папраўку ў мясцовы закон, які патрабуе выяўляць біблейскія дзесяць запаведзяў у афіцыйных установах, публічных месцах і школах.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кацярына Гандзюк



Яшчэ нядаўна малавядомая ва Украіне 31-гадовая дарадца мэрыі Херсона, удзельніца Еўрамайдана, па меркаванні шматлікіх экспертаў, можа стаць прычынай палітычных зменаў.

Кацярына Гандзюк памерла 4 лістапада з-за апёкаў сернай кіслатой, што выліў на яе напрыканцы жніўня невядомы.

Трагедыяй скарысталіся апаненты Парашэнкі. 73 грамадскія арганізацыі заявілі, што генпракурор і міністр унутраных спраў павінны сысці ў адстаўку. Справа Гандзюк, на іх думку, кажа пра татальны крызіс праваахоўнай сістэмы. Выявіць замоўцаў забойства Гандзюк запатрабавалі Дзярждэп ЗША і прадстаўнікі ААН. Аднак следства па гэтай справе вельмі небяспечнае для самой улады. Большасць падазраваных у свой час удзельнічалі ў АТА на Данбасе і былі адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі.

У справе таксама фігуруюць сілавікі і лідары мясцовай секцыі «Блока Пятра Парашэнкі» (БПП). Магчыма таму напад на Гандзюк спачатку кваліфікавалі як хуліганства, і толькі пасля ціску грамадскасці перакваліфікавалі на замах на забойства. Калі справе даць ход, гэта дакладна падарве імідж улады напярэдадні выбараў.

### Хуберт Айвангер



Старшыня нямецкага руху «Свабодныя выбаршчыкі» 5 лістапада падпісаў дамову аб фарміраванні ўрада Баварыі разам з хрысціянскімі сацыялістамі. Гэту падзею можна лічыць гістарычнай.

Удзел у зямельным урадзе — прарыў для «Свабодных выбаршчыкаў». Ён дае руху шанец выйсці на федэральны ўзровень і, магчыма, у перспектыве цалкам змяніць нямецкую партыйную сістэму. Справа ў тым, што «Свабодныя выбаршчыкі» імкнуцца дзейнічаць толькі на ўзроўні мясцовых абшчын. Выбарчыя праграмы часцей за ўсё ўключаюць 2 – 3 канкрэтных патрабаванні да муніцыпалітэту. Пад гэтую ініцыятыву і ствараецца асяродак партыі. Як вынік, задача «выбаршчыкаў» — максімальнае падпарадкаванне цэнтральных органаў улады інтарэсам мясцовага самакіравання.

Дзесяці ў 2008 годзе за «выбаршчыкаў», якія з'явіліся прыкладна ў 1950-х, пачалі ўсё часцей галасаваць не толькі на выбарах у камунальныя саветы. У партыі з'явіліся свае прадстаўнікі ў баварскім Ландтагу і Еўрапарламенце, а цяпер — і партфелі зямельных міністраў. З улікам крызісу старых нямецкіх палітструктураў, партыя Айвангера можа разлічваць і на мандаты Бундэстагу. Усё залежыць ад таго, як «Свабодныя выбаршчыкі» праявяць сябе ў баварскім урадзе, дзе ім дасталіся тры дэпартаменты — эканомікі, экалогіі і культуры.

### Мігель Дыяс



Нядаўна абраны кіраўнік Рэспублікі Кубы наведаў Маскву і міжволі прымусіў узгадаць некаторыя старонкі «халоднай вайны», а дакладней — Карыбскі крызіс 1962-га.

Той крызіс, які ледзь-ледзь не скончыўся ядзернай вайной СССР і Злучаных Штатаў, быў выкліканы размяшчэннем на Кубе ракетаў СССР з ядзернымі боегалоўкамі.

Менавіта пра «развіццё эканамічнага і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва Кубы з Расіяй» размаўляў Дыяс у Маскве. Асобныя крыніцы кажуць, што бакамі абмяркоўвалася магчымая вайсковая прысутнасць Расіі на Кубе. Шэраг СМІ мяркуюць, што гэта звязана з магчымым выхадам ЗША з Дамовы аб ракетах сярэдняй і меншай далёкасці (ДРСМД).

Яшчэ адным фактарам для актывізацыі супрацоўніцтва стаў нядаўні працяг антыкубінскіх санкцый ЗША, якія былі ўведзеныя супраць Кубы ў 1960-х. Барак Абама абяцаў тыя санкцыі прыпыніць, але новы прэзідэнт Дональд Трамп выступае за працяг канфрантацыі з Гаванай. Па выніках перамоваў СМІ паведамляюць, што на Кубе зноў могуць з'явіцца выведвальныя і радыётэхнічныя часткі.

# «Думаў, што Сталін памёр



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адным з тых, хто прайшоў праз усе выпрабаванні сталінскай рэпрэсіўнай сістэмы, быў беларускі літаратурны крытык і перакладчык Раман Фёдаравіч Ляпіч. Успаміны яго жонкі даюць магчымасць зразумець, праз што праходзілі ахвяры НКУС у 1930–1940-я гады.**

### З сялян...

Нарадзіўся Раман Ляпіч у 1906 годзе ў вёсцы Бор Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі парабкаваў. У 1923 годзе будучы навуковец пераехаў у Мінск, дзе працаваў у саўгасе «Трасцянец». У 1926 годзе ён скончыў школу міліцыі, а потым вучыўся на рабфаку і літаратурным факультэце БДУ.

З 1931 года пачалася яго супраца з газетамі «Звязда», «Рабочый». Пры гэтым Ляпіч пра-



Раман Ляпіч

цягваў займацца навукай, скончыў аспірантуру АН БССР, пасля чаго працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам інстытута літаратуры і выкладаў у Мінскім педінстытуце. У сакавіку 1938 года яго прызначылі дэканам філалагічнага факультэта.

Ляпіч актыўна займаўся навуковай дзейнасцю. Раман Фёдаравіч напісаў рэцэнзіі на кнігі Платона Галавача і Алеся Звонака, пераклаў на рускую мову творы Змітрака Бядулі і Міхася Лынькова. Яго пяру належала і шмат рэцэнзій на тэатральныя п'есы ды спектаклі. Вось вытрымка з адной з іх, якая датуецца 1932 годам: «Хмара выведзены ў п'есе як характэрны тып раз'юшанага вялікадзяржаўнага шавініста, які выпадкова трапіў у партыю. "Аплявалі Расію... Прыедзеш у Беларусь — беларусізацыя, у Украіну — украінізацыя, у Арменію...", — гаворыць ён Віхуры, знаходзячыся пад уздзеяннем алкаголю. Пры гэтым ён імкнецца падвесці пад сваю шавіністычную "тэорыю" марксісцкую базу, заяўляючы: "Хачу гаварыць на той мове, на якой гаварыў Ленін"».

Падзеі першай паловы 1930-х гадоў, звязаныя з так званай «барацьбой супраць нацдэмаўшчыны», накладаюць свой адбітак на працу Ляпіча.

У адной з рэцэнзій ён піша: «Гэтаму пералому значна спрыяў разгром беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў. Выкрыццё перад савецкай грамадскасцю брудных спраў, шпіёнска-дыверсійнага твару гэтых агідных агентаў польскіх і нямецкіх фашыстаў дапамагло тым беларускім пісьменнікам, якія ў той або іншай ступені знаходзіліся пад уплывам нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі, зразумець контррэвалюцыйную сутнасць нацдэмаўшчыны.

Пад уздзеяннем усяго гэтага Янка Купала робіць рашучы перагляд сваіх ранейшых пазіцый, самакрытычна спрабуе ўсвядоміць і ацаніць сутнасць сваіх былых заблуджэнняў і памылак, становячыся на шырокія і светлыя прасторы новай творчасці. Зроблена, як кажуць, пераацэнка каштоўнасцяў. Смела і самакрытычна Купала гаворыць перад тварам савецкай грамадскасці аб шкодных іх ранейшых памылках у вядомым лісце ў рэдакцыю газеты "Звязда". [...] "Год вялікага пералому" з'явіўся адначасова і годам, які прынёс з сабой пачатак рашучага пералому, пачатак шчырай ідэйна-мастацкай перабудовы і ў творчасці Я. Купалы. Гэта асабліва відаць на такіх яго вершах, як "Сыходзіш вёска з яснай явы..." (1929), "Дыктатура працы" (1930), "Песня будаўніцтву" (1931) і інш. [...]

Яшчэ больш моцны і эмацыянальны верш "А ў Вісле плавае тапелец" (1931). Тэматычна верш адлюстроўвае жыццё працоўных і эксплуататараў у фашысцкай Польшчы, прычым гэты свой паказ Я. Купала вядзе ў плане рэзкіх сацыяльных кантрастаў, што, па-першае, адпавядае сапраўднасці, а, па-другое, дае магчымасць паэту акцэнтавацца на найбольш істотных фактах, адлюстроўваючых становішча спраў у панскай Польшчы. У ім паэт маляўнічымі мастацкімі фарбамі і моцнымі, патрасаючымі сваёй драматычнай праўдзівасцю вобразамі і сітуацыямі перадае раскошу і багацце, зывёльнае, абжорскае існаванне кучкі капіталістычных трутняў і паразітаў на агульным змрочным фоне жабрацтва, галечы, голаду і беспрацоўя працоўных мас. З аднаго боку "балюе панская Варшава", а з другога — "Вісла пеніцца крывава, а ў Вісле плавае тапелец"».

### Вязень «Амерыканкі»

Згаданая вышэй рэцэнзія ўбачыла свет у 1937 годзе. Гэта найбольш цяжкі час для беларускай інтэлігенцыі. «У 1937 годзе ішлі арышты, і ў той жа час праводзіліся выбары ў Вярхоўны Савет. Сталін заклікаў савецкія органы, партыйцаў да павышанай пільнасці. [...] 20 ліпеня 1938 года Ляпіч быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС як "вораг народа" і змешчаны ў камеру папярэдняга зняволення ў унутранай турме НКУС у Менску.




Пра масавыя рэпрэсіі ён ведаў яшчэ да свайго арышту і быў гатовы да дадзенай сітуацыі. Калі ўбачыў "чорны воран" ля свайго пад'езда, а потым пачуў стук у дзверы, то не здзівіўся.

На парозе стаялі двое вайсковых у форме супрацоўнікаў НКУС са "шпаламі" ў пятліцах. Яны запыталі прозвішча і прад'явілі ордэр на арышт і наператрус. Прыператрусе шукалі забароненую літаратуру. Ужо знаходзячыся ў камеры, Ляпіч, па ўласным прызнанні, думаў не толькі пра сябе, але і пра лёс мільёнаў такіх, як ён. [...] Ён мог бы стаць селянінам, як яго бацька, але жыццё склалася інакш. Ён пайшоў да ведаў, актыўна займаўся грамадскім жыццём. [...] Ляпіч думаў пра сваіх калег, якія таксама сталі ахвярамі. Пра свайго настаўніка, акадэміка Івана Замоціна, пра Цішку Гартнага, Алеся Пальчэўскага, Міколая Федаровіча, Янку Скрыгана і іншых. Ужо ў 1938 годзе іншыя беларускія пісьменнікі сталі ахвярамі рэпрэсій. Шматлікія тысячы загінулі ў турмах і лагерах ГУЛАГ», — адзначала ва ўспамінах жонка беларускага навукоўца Соф'я Пятроўна Ляпіч.

Сам навуковец так характарызаваў тую сітуацыю: «Я быў рамантыкам. Быў адным з тых інтэлігентаў, якія пасля заканчэння інстытута шчыра жадалі прыняць удзел у пераўтварэнні старарэжымнага свету. Вылазячы са скуры, даказваючы, што трэба змяніць псіхалогію, адукацыю, веды, пазбавіцца дробнабуржуазных поглядаў. [...] Але прыйшоў час, калі сокі пачалі выжымаць не толькі са старарэжымных, але і з маладых навукоўцаў, такіх, як я. Без сораму пачалі арыштоўваць людзей, называючы іх "ворагамі народа", саджаць іх за краты па даносах».

На допыты Рамана Ляпіча выклікалі ноччу. «Чалавек сярэдніх гадоў у вайсковай форме з дзвюма шпаламі ў пятліцах сядзеў за сталом. Следчы нешта буркнуў сабе пад нос, назваў сваё прозвішча (Савацееў) і запытаў прозвішча падследнага. [...] Следчы сказаў, што Ляпіч абвінавачваецца ў сувязях з замежнай выведкай. Дакладней, з нямецкай. А таксама ў сувязі з нацдэмамі. Акрамя гэтага, ён абвінавачваўся ў варожай дзейнасці супраць савецкай улады і ў касмапалітызме. [...] Следчы цікавіўся, як Ляпічу ўдалося так хутка падняцца па "крутой лесвіцы навукі". Ён здзіўляўся, як сын непісьменнага селяніна атрымаў вышэйшую адукацыю. "Відаць, у вас была пратэкцыя? Хто быў вашым заступнікам?" — крычаў следчы. Ляпіч тады разважаў: "Няўжо мала месца на зямлі? Хто каму перашкаджае? Навошта абвінавачваць людзей? Арыштоўваць іх і "кухараць" справы? Уся гэтая валтузня з допытамі патрэбна для выгляду, для пратакола"», — адзначала ва ўспамінах яго жонка.

Распаўсюджанай абразай з боку нкусаўца былі словы: «Ляпіч, ты інтэлігент вясковага крою. Змяніў лапці на боты, сволач». Следчы цісную на Рамана Фёдаравіча і прымушаў апошняга агаварыць сябе. Кожную ноч адбывалася адно і тое ж: лямпа ў вочы, тычкі, крыкі. «У Ляпіча была выдатная памяць, заблытаць яго на допытах у следчага не атрымлівалася. Мужу было тады трыццаць два гады, нервы былі яшчэ крэпкія, здароўе з вясковай закваскай. Знаходзячыся пад цяжкімі абвінавачваннямі, ён спрабаваў сябе абараняць. Але дарэмна», — падкрэслівала ў рукапісных мемуарах Соф'я Ляпіч.

Праз некаторы час у камеру, дзе знаходзіўся навуковец, пасадзілі яго знаёмага па інстытуце. Той аказаўся «падсадным» і спрабаваў «разгаварыць» Ляпіча, аднак апошні не «павёўся» на гэты манеўр нкусаўцаў. «Абараняючы сваю скуру, некаторыя гатовыя садраць скуру іншага. Нагаварыць, узвесці паклёп, падпісаць прысуд, адправіць іншага на эшафот — гэта робяць тыя, каму таксама пагражае смерць», — узгадваў тыя часы Раман Фёдаравіч.

### Лёс у руках «тройкі»

Ляпіча абвінавачвалі ў здрадзе Радзіме і нацдэмаўшчыне. Навукоўцу не дапамаглі рэцэнзіі, у якіх ён «выкрываў» сутнасць беларускіх нацыянал-дэмакратаў. «Згніеш у тайзе. Цябе прызначана доўга паміраць», — крычаў следчы НКУС. Аднак Раман Ляпіч адмаўляўся падпісваць пратаколы допыту. Ён стаяў на сваім: у контррэвалюцыйных змовах і арганізацыях не быў, на замежную выведку не працаваў. «Заслуга ваша перад Радзімай не вялікая. Сёння вы мяне дапытваеце, а заўтра вы можаце аказацца на маім месцы», — ціха ў адказ сказаў Ляпіч.

Як не дзіўна, але апошнія словы Рамана Фёдаравіча былі прарочкімі. Хутка следчага Савацеева, які «не спраўляўся з абавязкамі», знялі. Справай Ляпіча пачаў займацца іншы супрацоўнік дзяржбяспекі. Сабраўшы «дастатковую» для абвінавачвання колькасць даносаў, следчы перадаў дакументы Рамана Фёдаравіча на разгляд Асобай нарады НКУС. «Следству не атрымалася даказаць удзел Ляпіча ў контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі і супрацы з замежнай выведкай. У заключэнні было пазначана: "Заўважаны ўпартым і скрытным у сваіх паводзінах"».

Тыя, хто засядаў у «тройках», мелі поўную ўладу над падследнымі. Савецкія газеты ў той час зіхацелі заклікамі «Знішчыць ворагаў народу», «Расстраляць агентаў сусветнага капіталізму» і г.д. Паралельна ішла так званая «польская аперацыя НКУС», у рамках якой была арыштавана вялікая колькасць жыхароў БССР польскага паходжання і рыма-каталіцкага веравызнання. Праца тагачасных чэкістаў нагадвала жудасны канвеер.

«Яны пераследавалі цэлыя катэгорыі савецкіх грамадзян. Забралі самых лепшых, працаздольных, перадавых людзей. [...] Ляпіч чакаў суда. Але які гэта суд? Пасяджэнне "тройкі". Ён быў упэўнены, што "вышку" не атрымае, бо ў выведвальнай і контррэвалюцыйнай дзейнасці не прызнаўся. Але калі яго завялі ў "судовую залю", навукоўцу стала жудасна. Ён сеў на стул, а побач з ім стаў вартавы. Праз некаторы час у пакой увайшлі тры чалавекі. Тры інквізітары. Яны занялі свае месцы за доўгім дубовым сталом, пакрытым зялёным сукном. Адзін з іх быў у вайсковай форме. Ён устаў і... пачаў зачытваць прысуд. "За варожую дзейнасць супраць

# — і ўсё змянілася...»

савецкай улады... — чытаў кат, — грамадзянін Ляпіч Раман Фёдаравіч асуджаны як вораг народа да 8 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём тэрміну зняволення ў працоўным лагеры без права выезду пасля заканчэння пазначанага тэрміну да асаблівага распараджэння"».

### Дзе ты, любы?

Для Соф'і Пятроўны Ляпіч пачаліся цяжкія часы. «У 1937–1938 гадах, як быццам бы маланка і гром пасярод яснага неба, пачаліся чорныя дні для шматлікіх людзей і для мяне. Органамі НКУС былі арыштаваныя мой муж і брат. Праз некалькі дзён я вырашыла звярнуцца ў следчую частку НКУС, каб даведацца пра лёс сваіх блізкіх. Раніцай я прыйшла ў прыёмную і запісалася ў чаргу да следчага. Народу было біткам. У 9 гадзін адкрыліся акенцы, дзе сядзелі супрацоўнікі НКУС. Яны запісвалі ў чаргу да следчага і прызначалі тэрмін прыёму.

Паводле пашпартных дадзеных супрацоўнікі даведваліся, кім прыходзіцца чалавек арыштаванаму. У прызначаны дзень прыходзіш туды ж і даведваешся ад людзей, што следчы не прымае, а адказвае па тэлефоне. Пачуўшы сваё прозвішча, падыходжу да акошка, а там кажуць, у якую кабінку трэба зайсці. [...] Вітаюся, пытаю пра лёс мужа і брата. А следчы, замест адказу, пытае, колькі вам гадоў. Адказваю, а ён: "О, дык яшчэ маладая, можаце выходзіць замуж за іншага". І вось так выходзіш з кабінкі ў слязах», — узгадвала тыя жудасныя часы жонка навукоўца.

Урэшце жанчына даведалася, дзе знаходзіўся муж. Яна паспела перадаць яму цёплыя рэчы. «Ля зоны "шум-гам", плач, крыкі. Ля прахадной конная міліцыя. Запіску перадаеш панад людзьмі. Таксама крычыш, просіш, каб перадалі. У натоўп лезці нельга, бо затопчуць. У апошні раз перадала мужу цёплую бялізну, рукавіцы і трохі ежы», — пісала ва ўспамінах Соф'я Пятроўна Ляпіч.

### «Сталіца Калымскага краю»

Хутка пасля пасяджэння «тройкі» Ляпіча накіравалі «па этапу». Ноччу з турмы асуджаных вывезлі ў машынах на чыгуначную станцыю. Таварны цягнік стаяў у тупіку. Тут нкусаўцы правяралі спісы асуджаных, і афіцэр аддаваў загад: «Па вагонах».

Ляпіч узгадваў, што людзей у вагонах было вельмі шмат. Сярод асуджаных былі хворыя, збітыя. Падчас транспарціроўкі зэкі вымушаныя былі стаяць. На прыпынках яны спрабавалі дамагчыся выйсці на вуліцу, аднак канвой пад пагрозай адкрыць агонь на паражэнне не даваў гэтага зрабіць.

Па прызнанні Рамана Фёдаравіча, людзей «на этапе» было вельмі шмат. «Народ абураўся, у думках шукаў таго вар'ята, які іх душыў. Не, казалі яны, ён не чалавек. Гэта Кентаўр, які раіцца са сваім хвастом, а не з мудрацамі», — узгадваў тыя жудасныя моманты свайго жыцця беларускі літаратурны крытык. Цягнік ішоў да Уладзівастока.

Падчас выгрузкі стала зразумелым, што вялікая колькасць вязняў не вытрымала дарогі. Далей ацалелых з Мінску і іншых гарадоў сталінскай імперыі пешшу накіравалі на станцыю Вугальная, дзе пасадзілі ў іншы эшалон, які ішоў да Находкі. Там зэкаў перасадзілі на параход і накіравалі ў Магадан, дзе Ляпіча і іншых зняволеных чакаў лагер.

Лагпункт быў абнесены высокім плотам з калючым дротам. Унутры — доўгія, падобныя на сараі, баракі, з вузкімі вокнамі. «Ад гэтага відовішча чалавек губляў сэнс уласнага быцця і прызначэння», — узгадваў пазней Раман Ляпіч. Унутры баракаў вязняў чакалі двухпавярховыя нары. Ля дзвярэй віселі лозунгі, якія заклікалі «ўдарнай працай дапамагчы першай краіне працоўных і сялян», а таксама «стымулявалі» зэкаў змагацца супраць паразітаў, якія атакавалі лагернікаў. Сярод асуджаных былі людзі розных нацыянальнасцяў, узросту, прафесій. Побач з «кулакамі», святарамі, «палітычнымі», былымі афіцэрамі Чырвонай Арміі сядзелі серыйныя забойцы, злодзеі, крымінальнікі. Сапраўднымі гаспадарамі былі рэцыдывісты. Яны адчувалі сябе ў лагеры, як дома. «Палітычных» «уркі» пагардліва называлі «ворагі народа», быццам бы ставячы сябе на адну планку з нкусаўцамі-вертухаямі. А вось саміх сябе крымінальнікі называлі «сябрамі народа», узгадваў Ляпіч.

У кожным бараку амаль палову складалі злачынцы, якія падпарадкоўвалі сабе ўвесь барак. «Лагернае кіраўніцтва лічыла нас за адкіды грамадства і гэтым карысталіся "злодзеі ў законе"», — узгадваў Раман Фёдаравіч.

Крымінальнікі не працавалі, але абіралі іншых зняволеных. З-за гэтага, па ўспамінах беларускага навукоўца, які апынуўся ў ГУЛАГу, некаторыя брыгады не выраблялі план і мелі меншыя харчовыя пайкі.

Варта адзначыць, што лагерныя ўспаміны Рамана Ляпіча вельмі нагадваюць мемуары іншага вязня ГУЛАГу, Паўла Нічыпарука. Гэтага беларуса НКУС арыштавала ў 1941 годзе пад Кобрынам, а пазней накіравала ў Сібір, адкуль ён трапіў у Армію Андэрса. У 2017 годзе аўтар гэтага артыкула выдаў мемуары беларускага андэрсаўца пад назвай «Адысея палешука».

### Лагерная рэчаіснасць

Уркі часта падстаўлялі пад удар адміністрацыі менавіта палітычных. Крымінальнікі ведалі законы зоны, кодэкс, і гэта дазваляла ім абыходзіць іх. «Злодзеі ў законе вельмі любілі выхваляцца сваімі адсідкамі ў турмах і лагерах. Яны расказвалі, дзе і калі сядзелі, а таксама за якія "подзвігі". Яны прымушалі вязняў аддаваць грошы і рэчы ў злодзейскі абшчак. А хто не хацеў плаціць, той трапляў на зладзейскі суд», — узгадваў Ляпіч.

З раніцы асуджаныя выходзілі на працу і вярталіся позна ўвечары. Працаваць на лесанарыхтоўцы даводзілася па 10 гадзін. Пры гэтым тэрмометр часта спыняўся на адзнацы ў мінус 50 градусаў па Цэльсію. Пасля цяжкай працы стомленыя людзі ішлі на нары, але ім доўга не давалі заснуць злодзеі, якія гулялі ў карты і гучна лаяліся. «Ляпіч тады думаў над сэнсам свайго жыцця. Мінулага ўжо не вернеш, а ці ёсць у яго, беларускага навукоўца, будучыня. Іх, вязняў, зрабілі рабамі», — пісала ва ўспамінах жонка Рамана Фёдаравіча.

У бараках людзі жылі, быццам на вакзале. У кожную хвіліну ахова магла іх падняць на працу альбо ў сталовую, бо трэба было паспець паесці перад лесапавалам. Сярод зэкаў было шмат вельмі хударлявых людзей. Іх асуджаныя называлі «дахадзягамі». Як і «андэрсавец» Павал Нічыпарук, Ляпіч тлумачыў гэту назву тым, што гэтыя асуджаныя «дахадзілі да краю свайго жыцця». «Палітычныя» шкадавалі гэтых ахвяр ГУЛАГу, а блатныя здзекаваліся з іх. Больш за ўсё, па прызнанні самога Рамана Ляпіча ён баяўся захварэць. Хвароба была найбольш хуткім шляхам да смерці. Харчаваліся зэкі баландай, якую варылі з «іржавага» селядца і круп. Ад гэтай ежы ў вязняў ГУЛАГу часта здараліся праблемы са страваваннем.

У бараку, дзе жыў Ляпіч, здараліся бойкі паміж асуджанымі, было шмат хворых на бранхіт. Да ўсяго гэтага дадаваліся цяжкія ўмовы працы. «Раману Фёдаравічу здавалася, што ёнператвараецца ў выграбную яму, бо акумулюе ў сабе ўсе негатыўныя эмоцыі, што бачыць вакол сябе», — пісала ва ўспамінах жонка беларускага навукоўца. Ляпічу было шкада жыцця і часу, які няўмольна бег. Ён быў яшчэ не старым чалавекам, яму хацелася працаваць у сферы навукі. Але якая навука ў ГУЛАГу? Толькі фізічная праца, а вакол зэкі: палітычныя і крымінальныя.

Элементам той рэчаіснасці быў указ, паводле якога цяжарныя жанчыны і асуджаныя з немаўлятамі вызваляліся з лагеру датэрмінова. Гэта прымушала зэчак шукаць выпадковыя палавыя сувязі. Часта ўзамен за гэта яны расплачваліся хлебам.

Аднойчы ў лагеры з'явіўся былы святар, якога звалі Лука. Ён часта маліўся, што выклікала «абурэнне» з боку «палітычных». І гэта зразумела: большасць вязняў гэтай катэгорыі да зняволення былі камуністамі і атэістамі. А вось крымінальнікі ставіліся да «папа» больш спакойна. Святар прымудраўся даставаць кнігі, што было сапраўдным цудам у магаданскіх умовах.

Ці беглі людзі з ГУЛАГу? «Рывок», як называлі пабег на турэмным жаргоне, — цяжкае выпрабаванне. З калымскага лагеру — удвая больш цяжкае. Вакол тайга з дзікімі жывёламі. Да таго ж для ўцёкаў патрэбныя сілы, а іх няма. Не было карт, компаса. І ўсё ж людзі ўцякалі. Яны хоць на дзень, на два адчувалі сябе на свабодзе, а там — як «карта ляжа». «Лепшы момант для пабегу — гэта лесапавал. Там ахова не асабліва пільнае, і ёсць магчымасць пайсці "на рывок"», — узгадваў тыя часы Раман Ляпіч.

**У 1954 годзе Ляпіч прыехаў у БССР. Паспрабаваў засяліцца ў гатэль «Беларусь». Яму адмовілі і адзначылі, што ён не можа жыць у сталіцы. «Думаў, што Сталін памёр — і ўсё змянілася. Аднак яго дух яшчэ жыў», — узгадваў Раман Фёдаравіч**

### Зламанае жыццё

Літаратуразнаўца з Беларусі адседзеў у ГУЛАГу «ад званку да званку» і выйшаў на волю ў 1946 годзе. «Палітычным», нават пасля заканчэння тэрміну зняволення, забаранялася жыць у вялікіх гарадах. Спачатку ён працаваў вольнанаёмным, а ў 1948 годзе ўладкаваўся на працу на базу забеспячэння горнапрамысловага ўпраўлення. З 1951 года Ляпіч працаваў прарабам-геолагам Дзетрынскага горна-руднага ўпраўлення.

У 1954 годзе Ляпіч упершыню за доўгі час прыехаў у БССР. Калі ён спрабаваў засяліцца ў гатэль «Беларусь» (сёння «Краўн-Плаза») яму адмовілі і адзначылі, што ён парушае пашпартны рэжым, бо не можа жыць у сталіцы савецкай Беларусі. «Думаў, што Сталін памёр — і ўсё змянілася. Аднак яго дух у Беларусі яшчэ жыў», — узгадваў тыя моманты Раман Фёдаравіч. Шокам для Ляпіча была інфармацыя пра маштаб рэпрэсій 1937–1941 гадоў, пра які яму расказалі яго былыя калегі і сябры, якія жылі ў горадзе на Свіслачы. Шмат з тых, каго «ўзялі» адначасова з нашым героем, былі расстраляныя НКУС. Да таго ж Ляпіча папярэдзілі, каб ён хутчэй з'язджаў з Беларусі. Маўляў, у канцы саракавых у Мінск з лагеру прыехаў пісьменнік Алесь Пальчэўскі, але яго зноў арыштавалі і выслалі ў Краснаярскі край. Ляпічу давялося вярнуцца на Калыму.

Знаходжанне ў ГУЛАГу канчаткова падарвала здароўе былога літаратурнага крытыка і перакладчыка, які перакваліфікаваўся ў геолага. Яго прызналі інвалідам II групы. У 1968 годзе ён нарэшце пераехаў у Мінск. Праз год яго афіцыйна рэабілітавалі. Дзякуючы намаганням Пятруся Броўкі, Раман Фёдаравіч атрымаў аднапакаёвую кватэру, дзе і пражыў да канца жыцця. Памёр Раман Ляпіч у студзені 1977 года. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

**Аўтар выказвае шчырую падзяку спадару Міхаілу Сянько за перададзеныя матэрыялы.**

**Фота прадстаўленыя аўтарам артыкулу**



Арыштанты ў ГУЛАГу

# «1918. Нараджэнне новага свету»

**У Нацыянальным гістарычным музеі 14 лістапада ў 17.00 адкрыецца выстава «1918. Нараджэнне новага свету» ў рамках аўтарскага праекта Уладзіміра Ліхадзедава «У пошуках страчанага» да 100-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны.**




Падчас мерапрыемства пройдуць дзве прэзентацыі. Вядомы калекцыянер і гісторык Уладзімір Ліхадзедаў прадставіць фотаальбом «Беларусь 1914–1918. Вайна і мір», які паказвае рэаліі Усходняга фронту вачыма расійскіх і германскіх салдат.

А затым у 18.00 у музейным дворыку вядомая кампанія — распрацоўшчык кампутарных гульняў «Wargaming» зладзіць прэм'ерны паказ новага кароткаметражнага фільма «Атака мерцвякоў: Асавец», што распавядае пра жахі Першай сусветнай на прыкладзе бітвы за Асавецкую крэпасць.

У дні стагоддзя заканчэння аднаго з самых страшных узброеных канфліктаў у гісторыі чалавецтва, які шмат у чым змяніў лёсы людзей і сфарміраваў вобраз новага свету, асабліва важна згадаць драматычныя падзеі мінулага, знайсці ў іх вытокі ўзаемапаразумення і прымірэння. Выстава «1918. Нараджэнне новага свету» не толькі дасць магчымасць пазнаёміцца з каштоўнымі гістарычнымі матэрыяламі, але і прадэманструе сучасныя падыходы да інтэрпрэтацыі трагедыі «Вялікай вайны».

Мінскі цэнтр распрацоўкі «Wargaming» прадставіць для часовай экспазіцыі эксклюзіўныя мультымедыйныя матэрыялы, прысвечаныя бронетэхніцы Першай сусветнай вайны, у тым ліку 3D-праекцыю першага серыйнага танка «Mark I».

На выставе будуць прэзентаваныя ўнікальныя артэфакты з прыватнай калекцыі У.А. Ліхадзедава, якія дазваляюць пабачыць вайну непасрэдна вачыма яе ўдзельнікаў: знакамітага нямецкага франтавога фатографа Фрыца Краўскопфа, простага расійскага афіцэра-артылерыста Гродзенскай крэпасці паручніка Конанава, вядомага мемуарыста-франтавіка А.А. Успенскага. Сярод экспанатаў — пісьмовая прылада каменданта Гродзенскай крэпасці генерала М.Н. Кайгародава, унікальны каталог гістарычнай выставы, арганізаванай у 1918 годзе ў Мінску нямецкім акупацыйнай адміністрацыяй, творы мастацтва, створаныя ў нямецкім палоне расійскімі і французскімі афіцэрамі, і шмат іншага.

Адкрыццё выставы «1918. Нараджэнне новага свету» стане маштабным мерапрыемствам, на якое запрошаны прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу. У гасцей будзе магчымасць пагрузіцца ў атмасферу стогадовай даўніны.

Выставу можна будзе наведаць да 2 снежня.

**Паводле прэс-рэлізу**




# «Даўно я не чуў тут гэтай мовы»

Уладзь ГАРБАЦКІ

**Віленскія тралейбусы — гэта цэлая асобная тэма для размоваў. Яны шармуюць мяне не так новымі камфортнымі, як старымі, звяглівымі, траскімі і часта смярдзючымі ўжо мадэлямі, якія да ўсяго дзіўным чынам зусім не халодныя ўзімку. З улікам таго, што ў Вільні няма ані метро, ані трамваяў, тралейбус з'яўляецца ў пэўнае ступені сімвалам места.**



Прыгадваецца мне адна з першых маіх працоўных паездак у Вільню, калі я ехаў з калегам і размаўляў па-беларуску, зразумела. Я гаманіў досыць ціха, а калега, наадварот, досыць гучна. І ў наш бок кідалі позіркі млявавытыя і зазвычай малацікаўныя пасажыры. Адзін дзядок у рэтракапелюшы з невядома якой шафы дасталым і з старкаватым рудым кошыкам, які сядзеў зусім побач, аглядаў нас асабліва адкрыта, дужа не хаваючыся. І не адразу было зразумець, ці гэта проста па старцавай цікаўнасці, ці то па нейкай іншай прычыне паглядаў на нас ён. Люд спакойна гаманіў па-летувіску і толькі зрэдчас у гаману ўпляталася наша беларуская мова. На кожнае ўзмацненне голасу майго калегі дзядок рэагаваў асабліва ўважліва і неяк прынцыпова. Але і на маю сцішаную мову ён рэагаваў пасвятленнем у вачох.

І не чыталася ў ягоных вачах ані злосці, ані радасці, хіба нейкі здзіў. І зацікавіў гэты дзядок мяне, як мы невытлумачальна зацікавілі яго.

У цэнтры, акурат на супынку «Пляц Кудзіркі», дзе салон вызваліўся ці не палову, дзядок усміхнуўся і загаварыў з такім мілым, непадробным віленскім акцэнтам, ды яшчэ па-беларуску. Праўда, на беларускай мове, якой ніколі ўжо не пачуць у цяперашняй Беларусі:

— Хлопцы, дазвольце ўсунуць старому свае тры грошыкі. Слухаю вас усю дарогу і, ведаеце, што зразумеў? Даўно, гой даўно, я не чуў у нас вашай мовы... Я ўжо нават падумаў, што зніклі беларусы, як зніклі жыды. А вось не, вы тут. Стары я ўжо, а вы зусім маладыя шчэ, але здыму перад вашай далікатнай і жывучай мовай капялюш.

Устаў дзядок, нахінуўся каліва і, дадушы, сцягнуў капялюш з сваёй сівой галавы.

# Заключныя мерапрыемствы Тыдняў Германіі – 2018

**Заключным мерапрыемствам, якое ўвянчае Тыдні Германіі, стане Фестываль XJAZZ у Мінску. Сем музыкантаў з Берліна на тры дні пераўтвораць Мінск у джазавую лабараторыю.**

Фармат фестывалю XJAZZ быў прыдуманы вядомым нямецкім кампазітарам, трубачом і піяністам Себасцьянам Студніцкім (Sebastian Studnitzky) і стартаваў у 2014 годзе. Ён адразу ж стаў адным з найбуйнейшых джазавых падзей Германіі і змог хутка і паспяхова зарэкамендаваць сябе на міжнароднай арэне.

За апошнія гады сведкамі гэтай беспрэцэдэнтнай падзеі сталі гледачы Турцыі, Расіі, Польшчы, Ізраіля і Францыі. І вось цяпер XJAZZ адбудзецца ў Беларусі! З 15 па 17 лістапада Беларуская дзяржаўная філармонія, культурны хаб «ОК16», культурны цэнтр «Корпус» і галерэя «Арт-Беларусь» стануць пляцоўкамі для XJAZZ Minsk Edition, а слухачоў чакае блюз, джаз і фанк у незвычайнай камбінацыі з электроннай і класічнай музыкай.

Ажыццяўленне праекта стала магчымым дзякуючы падтрымцы Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія, праекта Еўрапейскага Саюза «Мост», кампаніі «Рэгула», энтузіязму заснавальнікаў джазавага фестывалю XJAZZ Берлін і беларускіх суарганізатараў — канцэртнага агенцтва «Эквілібрыум АРТС» і міжнароднага творчага праекта «АРТЭМП».

## Праграма XJAZZ Minsk Edition 2018

**15 лістапада 2018 (чацвер)**

Культурны цэнтр «Корпус». Адрас: пр. Машэрава, 9, корпус 8.

18:00 — Адкрыццё. **Майстар-клас / лабараторыя (XJAZZ lab).** *XJAZZ lab = семінар-дыскусія не толькі для прафесійных музыкантаў і музыкантаў-аматараў, але і для ўсіх, хто зацікаўлены ў вывучэнні агульнай ідэі імправізацыі, кампазіцыі ў рэальным часе, эмпатычнай камунікацыі (6+).

Уваход вольны. Даведкі па тэл.: +375 29 3210610.

19:00 — **XJAZZ Jam з удзелам нямецкіх і беларускіх джазменаў** (6+). Уваход вольны. Даведкі па тэл.: +375 29 3210610

**16 лістапада 2018 (пятніца)**

Культурны хаб «ОК16». Адрас: вул. Кастрычніцкая, 16

19:00 — **Вялікі джазавы канцэрт.** Квартэт Себасцьяна Студніцкага (Берлін). «Мроі Пафнуцыя» (Мінск). Трыа Канстанціна Гарачага (Мінск). Квартэт Міхаіла Філіпені (Мінск) (12+). Квіткі. Даведкі па тэл.: +375 29 3210610.

22:00 — **Afterparty з Minimal Techno Electro Live Band «Komfortrauschen» (Берлін) & DJ Laurel (Мінск)** (18+). Квіткі. Даведкі па тэл.: +375 29 3210610.

**17 лістапада 2018 (субота)**

ZAL#2, галерэя «Арт-Беларусь». Адрас: вул. Казлова, 3.

14:00 — **Інтэрактыўная музычная праграма «Джаз для дзяцей»**

Себасцьян Студніцкі (фартэпіяна, труба) і Пафнуцій (валторна) запрашаюць на канцэрт самых маленькіх аматараў джаза! Увазе публікі будуць прадстаўлены папулярныя кампазіцыі, вясёлыя песні і, безумоўна, самая важная частка кожнага джазавага канцэрта — джэм, да ўдзелу ў якім будуць запрошаны ўсе гледачы. Як кажуць самі музыканты, самае галоўнае ў музыцы — гэта магчымасць разам павесяліцца! (3+)

Квіткі. Даведкі па тэл.: +375 29 3210610.

Вялікая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Адрас: пр. Незалежнасці, 50.

19:00 — **Канцэрт «MEMENTO».** Джазавае трыа Себасцьяна Студніцкага (Берлін) і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Квіткі ў касах філармоніі. Даведкі па тэл.: +375 17 3311617.

**Паводле прэс-службы Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1086

Падпісана да друку 09.11.2018. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.